+тэлепраграма № 39 (301) 18 кастрычніка 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ДЗЯЎЧЫНКА ЦІ ХЛОПЧЫК?



Ад чаго залежыць пол будучага дзіцяці? **Старонка 12.**

## У НУМАРЫ


BARCNEWS

### Кватэра: купляць ці будаваць

**Пасьля таго як у 2000 г. ціха сканаў разрэклямаваны праект "Рацыянальны дом", што даваў магчымасьць будаваць жыльлё ў растэрміноўку, у бяскватэрных грамадзянаў засталося чатыры варыянты: будаваць або купляць жыльлё за свае грошы, чакаць дзяржаўнага крэдыту ці атрымаць валютную пазыку. Аналіз плюсоў і мінусаў.** **Старонка 5.**

### Звычайны фінскі дзяцюк

**Хельсынскі бамбіст быў ціхмяным самотнікам, любіў граць у баскетбол. Увесь вольны час бавіў за кампутарам, лазячы па сайтах для тых, хто цікавіцца хіміяй і выбухамі.** **Старонка 7.**

### Кампот з хрэнам

**Калі народнаму артысту Беларусі партнэр голасна крыкнуў у самае вуха: "Я тут, паночку!", той зымправізаваў: "Чаго ты арэш?". Артыкул Пятра Ламана, артыста Коласаўскага тэатру.** **Старонка 11.**

### Імрэ Кертэс. Страчаны лёс

**Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры сёлета атрымаў вугорац Імрэ Кертэс (нар. у 1929 г.) — паводле афіцыйнай фармулёўкі Нобэлеўскага камітэту, "за сваю творчасьць, якая супрацьпаставіла ценькую экзыстэнцыю адзінкі дэспатычнаму барбарству гісторыі". Фрагмэнты канцлягерных успамінаў Імрэ Кертэса, перакладзеных на 15 моваў сьвету.** **Старонка 15.**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Выхад да Бродаў

**Беларусь мае тэарэтычны шанец правесьці па сваёй тэрыторыі новы нафтаправод, па якім касьпійская нафта можа цячы ў Эўропу, абмінаючы Расею. Украіна ўклала 200 млн. даляраў у пабудову нафтаправоду, што злучыў чарнаморскі порт Паўднёвы (35 км ад Адэсы) з горадам Броды. Дабудаваць трубу, па якой касьпійская нафта магла б прыйсьці ў Беларусь, каштуе 80 млн. даляраў.**

200 млн. даляраў, якія Украіна ўклала ў пабудову нафтаправоду, што злучыў чарнаморскі порт Паўднёвы ды горад Броды на Галіччыне, мусілі быць інвэстыцыяй у сыравінную незалежнасьць. Вядома, не абсалютную: цяпер краіна зможа атрымліваць нафту ня толькі з Расеі, але й з радовішчаў Касьпійскага рэгіёну праз Азэрбайджан, Грузію ды Чорнае мора. Аднак калі палітычныя мэты Украіны можна лічыць збольшага задаволенымі, дык эканамічныя чакаьні сябе пакуль ня спраўдзілі. Адрэзак "Адэса—Броды" даўжынёю 674 км і дыямэтрам трубы 1020 мм застаецца шляхам у нікуды.

Атрымаць прыбытак, пампуючы нафту адно да ўкраінскай мяжы, не атрымаецца — трэба гнаць сыравіну далей, беручы грошы за транзыт. Транспартаваньне нафты да Бродаў абыдзецца кліенту прыблізна ў 5,6 даляра за тону, а разам з разгрузкай танкераў у Паўднёвым — 6 даляраў. Пачатковая магутнасьць нафтаправоду "Адэса—Броды" — 9—14,5 млн. тонаў у год. Пасьля ўвядзеньня ў дзеяньне другой чаргі плянуюць перапампоўваць 45 мільёнаў — гэта дзесьці 270 млн. даляраў прыбытку.

**Працяг на старонцы 4.**

## Натальля Шаўко



**У Нямеччыне паранейшаму знаходзіцца пад вартай беларуская бізнэсоўка Натальля Шаўко (Судлянкова), колішняя прэзыдэнтка кампаніі "Фіко".** **Старонка 6.**

## Дык Маню паабяцалі завод

**У Менску прымалі генсэка кампартыі Віетнаму Нонг Дык Маня.** Кіраўніку блізкіх нам па


IREX-PROMEDIA

духу бальшавікоў абяцалі прадаць акцыі мотавэлязаводу. З нагоды візыту высьветлілася, што ў краіне жыве каля тысячы віетнамцаў, зь іх 400 грамадзянаў Сацыялістычнай Рэспублікі Віетнам, якія калісьці працавалі на беларускіх прадпрыемствах, а цяпер ня маюць грошай, каб вярнуцца дадому. Апроч таго, сёлета зь Беларусі было дэпартавана 220 нелегальных мігрантаў — грамадзянаў Віетнаму.

## “Народная грамада” ў кааліцыі з ЛДПБ

**“Народная грамада” падтрымала ініцыятыву ліберал-дэмакратаў пра падзел акругаў на мясцовых выбарах. “Народная грамада” ўжо мае гэткія дамовы з ПКБ і Партыяй працы.** М.Статкевіч заявіў, што сацдэмы гатовыя падпісаць такія дамовы і з усімі іншымі партыямі, што ўваходзяць у Кансультацыйную раду апазыцыйных партый.

## Асуджаны Аксёнчык


IREX-PROMEDIA

**На паўтара году турмы з адтэрміноўкай два гады асуджаны Ігар Аксёнчык, былы адвакат, юрыдычны прадстаўнік маці Зьмітра Завадзкага.** У часе “працэсу Ігнатовіча” ён заявіў, што да злачынства маюць адносіны найвышэйшыя беларускія чыноўнікі — у прыватнасьці Віктар Шэйман. І.Аксёнчыка зьвінавацілі ў паклёпе на генэральнага пракурора. Судовае паседжаньне было закрытым.

## Козік аддае паўнамоцтвы

**Леанід Козік больш не кіраўнік беларускай часткі сумеснай беларуска-іракцкай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве.** На гэтую пасаду прызначаны намесьнік кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Мікалай Іванчанка, былы дырэктар канцэрну “Белрэсурсы”. 54-гадовы Л.Козік, апроч ФПБ, кіруе беларускай часткай рабочай групы па падрыхтоўцы канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы і зьяўляецца сустаршынём савету Сабору славянскіх народаў Беларусі, Украіны і Расеі.

## Гітліц супраць Лябедзькі

**Тры кіраўнікі менскіх раённых суполак Аб’яднанай грамадзянскай партыі на чале з Рыгорам Гітліцам аб’явілі пра свой выхад з партыі.** Яны сьцьвярджаюць, што ў апошнія гады з прычыны аўтарытарнага кіраўніцтва Анатоля Лябедзькі партыя страціла свой уплыў. Лідэры АГП дэмарш сваіх былых аднапартыйцаў называюць вынікам узьдзеяньня на партыю вонкавых сілаў.

## Кансэрватары актывізуюцца

**Брытанская Кансэрватыўная партыя ў часе нядаўняе канфэрэнцыі абвясьціла пра выхад з крызы і пра саваё абнаўленьне.** Кансэрватары ўзмоцнена рыхтуюцца да мясцовых выбараў, што, як і ў Беларусі, пройдуць увесну 2003-га. На канфэрэнцыю быў запрошаны Аляксей Янукевіч, прадстаўнік БНФ “Адраджэньне”, зь якой Кансэрватыўная партыя мае дамову пра супрацоўніцтва ў сфэры навучаньня партыйных актывістаў. Нядаўна Партыя БНФ таксама заключыла пагадненьне аб супрацоўніцтве са “Зьвязам Айчыны — літоўскімі кансэрватарамі” (былы “Саюдзіс”).

## Намесьнікі Пашкевіча

**Рада Саюзу пісьменьнікаў абрала намесьнікамі старшыні саюзу Анатоля Кудраўца, Барыса Пятровіча і Міхася Скоблу.**

## Праваслаўныя і леваслаўныя

**Першы сакратар расейскага камсамолу Канстанцін Жукаў, выступаючы на зьезьдзе сваёй арганізацыі, сказаў, што камсамолец можа быць праваслаўным, мусульманінам або будыстам, але ня мае права быць каталіком.** Пра юдэйства нічога сказана не было.

## No comments

**Кіраўніцтва Акадэміі навук прапанавала сваім супрацоўнікам ахвяраваць на будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі месячныя аклады.**

## Сюжэт для трылера

**Пяць японцаў, выкрадзеных Паўночнай Карэяй у 1978 г. для навучаньня карэйскіх шпіёнаў, пабывалі на радзіме, каб пабачыцца з сваякамі.** Яшчэ восем выкрадзеных не дажылі да такой сустрэчы.

## У татараў — дні смутку

**У нядзелю ў Казані татарскія грамадзкія арганізацыі зладзілі жалобны мітынг з нагоды 450-й гадавіны захопу места войскамі Івана Жахлівага.** Некалькі тысячаў удзельнікаў прайшлі Крамлёўскай вуліцай і зьдзейсьнілі мусульманскі намаз у гонар забітых абаронцаў Казані.

## Ахвяраў у Чачэніі болей

**Паводле зьвестак нямецкае выведкі, на вайне ў Чачэніі загінула каля 10 тыс. расейскіх жаўнераў, а не 4,5 тыс., як цьвердзіць Крэмль.** Чачэнскіх партызанаў і мірных жыхароў забіта не 13, як кажуць расейцы, а 80 тыс. чалавек.

## Патрыярх румынскі ў Рыме

**У Ватыкане з афіцыйным візытам знаходзіцца праваслаўны патрыярх Румыніі Тэактыст.** Ва ўсіх сваіх выступах ён заклікае да злучэньня праваслаўных цэркваў і каталіцкага касьцёлу. Разам зь Янам Паўлам II яны адслужылі імшу ў саборы Сьв.Пятра.

**Б.Т.**

## Ірляндыя перад рэфэрэндумам



AP

**Гэты перадрэфэрэндумны плякат, вывешаны гаспадаром прыватнага дому, выклікаў у Ірляндыі дыскусію. Суд Дубліну запатрабаваў яго зьняць**

**Ірляндцы павінны падтрымаць або не падтрымаць трактат, падпісаны ў Ніцы, які прадугледжвае далейшае збліжэньне краінаў Эўразьвязу і далучэньне да арганізацыі новых сяброў.** Цікава, што ірляндцы схільныя прагаласаваць супраць першага, але тым самым яны заблякуюць і другое. Таму да агітацыі “за” актыўна далучыліся польскія палітыкі й дзеячы культуры.

## Зьмены ў ружанец

**Папа Ян Павал II абвесьціў, што зьбіраецца ўнесьці зьмены ў ружанец.** У яго дададуцца малітвы-разважаньні над яшчэ пяцьцю падзеямі з жыцьця Хрыста. Апошні раз ружанец мяняўся 900 гадоў таму.

## апытаньне

**Вы за свабодную куплю-продаж зямлі?**

| | |
|---|---|
| За | 8,1% |
| За з пэўнымі абмежаваньнямі | 52,5% |
| Супраць катэгарычна | 28,6% |

**Ці можна, на Вашу думку, дазволіць продаж зямлі замежнікам?**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Не | 66,1% | Так | 20,4% |

**Крыніца: НІСЭПД**

### ліст у рэдакцыю

# Патрэбны Дзень Праведнікаў

**У Беларусі высьветленыя імёны блізу 500 Праведнікаў народаў сьвету — тых, хто ў 1941—44 г. ратаваў габрэяў ад сьмерці. Яны рызыкавалі ня толькі сваім жыцьцём, але і жыцьцём сваіх дзяцей. Часта й гінулі праз даносы суседзяў: “Як жыдоў прымаць хто будзе, дык заразжуць і таго...”**

26 кастрычніка — дзень пакараньня нацыстамі першых менскіх падпольшчыкаў у 1941 г. З 2001 году ён адзначаецца “Маладым фронтам” як Дзень герояў антыфашысцкага супраціву ў Беларусі. Відавочна, патрэбны і Дзень Беларускіх Праведнікаў. Жывых Праведнікаў засталося вельмі мала: гісторык Іна Герасімава сьцьвярджае, што вядомыя 75 чалавек ва ўсёй Беларусі. Гэты сьпіс будзе папаўняцца, калі беларускія габрэі з розных краінаў сьвету як сьлед наладзяць пошукі сваіх ратавальнікаў.

На жаль, тутэйшыя яўрэйскія суполкі, чыю дзеяздольнасьць засьведчыў леташні знос сынагогі на Дзімітрава, 3 у Менску, не сьпяшаюцца нават закласьці традыцыю Дня праведнікаў у Беларусі. Ініцыятыва яго правядзеньня магла б аб’яднаць і ўрад, і няўрадавыя арганізацыі, і беларусаў, і габрэяў, і шмат каго яшчэ. Бо памяць пра герояў вайны дарагая ўсім.

**Вольф Рубінчык, Менск**

### камэнтары і меркаваньні

# Беларусь ня згадваецца

**Кіраўнік ураду Эўразьвязу Рамана Продзі ў інтэрвію італьянскай газэце “Стампа” ў аўторак сказаў, камэнтуючы пэрспэктывы далейшага пашырэньня адзінае Эўропы: “Балканам, якія б часы яны ні перажывалі, наканавана ўступіць у эўрапейскую сям’ю; гэта рэгіён, пра які нам трэба клапаціцца. Што тычыцца Расеі, Украіны, Малдовы, краінаў поўдня Міжземнамор’я, у тым ліку Ізраілю, дык мы можам гаварыць пра інтэграцыю зь імі, але не пра стварэньне супольных органаў кіраваньня”.**

Вось так: Беларусь ня згадваецца. Пакуль беларускае кіраўніцтва абменьваецца візытамі з Багдадам, лідэры эўрапейскай палітыкі, здаецца, пагадзіліся на тое, каб лёс Беларусі вырашыла Расея. На мове дыпляматыі гэта гучыць так: “Беларусь можа інтэгравацца з Эўропай і іншым шляхам”. У хвіліны шчырасьці: “Калі Пуцін навяжа Беларусі рэфэрэндум, гэта будзе ваша асабістая праблема”.

Патрэбная палітычная воля, каб зьмяшаць гэтыя карты. Але нашаму самаму часнаму ў сьвеце кіраўніцтву не да таго. Яно ўсё маракуе, як бы нагандляваць з Іракам яшчэ дзясятак мільёнаў. Брава! Бліскучы клопат пра нацыянальныя інтарэсы.

**Барыс Тумар**

# Ці будзе зачынена акно?

**Пры канцы мінулага тыдня Віктар Шэйман даклаў Аляксандру Лукашэнку аб сканчэньні расьследаваньня крымінальнай справы, узбуджанай адносна злоўжываньня службовым становішчам з боку кіраўнікоў фонду прэзыдэнцкіх праграмаў. Прэсслужба Генпракуратуры паведамляе, што справа ўжо перададзеная ў суд Цэнтральнага раёну сталіцы. Па ёй праходзяць два супрацоўнікі выканаўчай дырэкцыі гэтага фонду, прозьвішчы якіх пакуль не называюцца.**

Не выключаем, што гэтым разам пракуратура дзейнічае абсалютна справядліва. Фонды, непадсправаздачныя парлямэнцкаму кантролю, ва ўсім сьвеце разглядаюцца як патэнцыйныя крыніцы карупцыі. Калі ёсьць нейкая сума грошай, утоеная ад грамадзтва, зьяўляюцца людзі, ахвотныя скарыстацца з гэтых грошай.

Пытаньне ў другім: ці вынішчаная прычына карупцыі? Дзякуй, вядома, пракуратуры, прадбачлівасьць якой выратавала нейкія капейкі абяздоленаму люду. Але дзе гарантыі таго, што добрыя дзядзькі і цёткі, якія прыйдуць на зьмену кепскім, ня выявяцца такімі ж клапатлівымі да ўласнай кішэні і такімі ж нядбайнымі — да дзяржаўнай?

У 1993 г. дэпутат Лукашэнка ў сваім антыкарупцыйным дакладзе закрануў цэлы шэраг пытаньняў, датычных ня столькі асобаў, колькі сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня. На яго думку, менавіта сыстэма спараджала тады карупцыю. Урад і мясцовыя ўлады былі бескантрольнымі. Народ павінен быў стаць вярхоўным кантралёрам краіны. Сыстэма фінансаваньня органаў дзяржаўнага кіраваньня мусіла зрабіцца празрыстай. Органы дзяржаўнага кіраваньня ня мелі права, паводле гэтага дакладу, станавіцца заснавальнікамі камэрцыйных структураў.

Мінула амаль дзевяць гадоў. Сёньня самым буйным заснавальнікам камэрцыйных структураў зьяўляецца Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Органы народнага прадстаўніцтва — саветы і парлямэнт — пазбаўлены права кантраляваць усе выдаткі бюджэту. Прынамсі, калі ў міністра фінансаў сп.Корбута спыталі, за якія грошы купляюць дарагія іншамаркі для нашых улюбёных “слугаў”, ён ухінуў адказу. Маўляў, не бюджэтныя гэта грошы, і пяройдзем да наступнага пытаньня. Мог бы і сказаць. За крыніцамі пакупкі іншамарак ЦРУ ня сочыць, так што гуляцца ў дзяржаўную таямніцу не было патрэбы.

Усё гэтак было і летась, і залетась, і пры Ціцянкову, і пры Ганчарэнку, і пры Жураўковай. Ніхто, акрамя прэзыдэнта, Кіраўніцтва справамі не кантралюе. Вось Шэйман прыйшоў да Лукашэнкі і распавёў пра кепскіх цётак і дзядзек. Але ж і ў 1994-м, і ў 1996-м, і ў 2001-м народу абяцалі ня гэта. Народу абяцалі зьмяненьне сыстэмы, пры якім карупцыя зробіцца меней.

Што цікава: усіх карупцыянэраў прызначыў альбо асабіста кіраўнік дзяржавы, альбо нехта пасьля ўзгадненьня з усё тым жа Аляксандрам Рыгоравічам. Узьнікае адчуваньне, што праграма, кажучы моваю кампутаршчыкаў, дае збоі. Але ў гэтым выпадку акно, у якім яна дзейнічае, павінна зачыняцца аўтаматычна. А яно ня толькі не зьбіраецца гэтага рабіць, але яшчэ і працягвае функцыянаваць у абраным кірунку.

Цікава, колькі трэба ўзяць разьмеркавальніку дзяржаўных сродкаў, каб яго нарэшце пасадзілі? І калі іх пасадзяць усіх? І хто будзе наступным?

**Аляксандар Фядута**

# Дзе ж яна жыве

**У суботу наша зборная, у рамках адборачнага турніру да чэмпіянату Эўропы, прайграла аўстрыйскай (а ў сераду — і чэскай).**

Адзінае, чым атакавалі беларусы супернікаў, быў беларускі гімн з новымі словамі. Выкананы перад пачаткам сустрэчы гімн Аўстрыі доўжыўся сэкунды дваццаць пяць, бо граюць звычайна толькі першы куплет. Шасьціхвілінны гімн Беларусі сыгралі цалкам. Гледачы некалькі разоў сядалі, але даводзілася ўставаць ізноў. Аўстрыйскія футбалісты відавочна мерзьлі. Але на гэтым іхныя непрыемнасьці й скончыліся...

Міліцыянты на трыбунах паводзіліся надзіва міралюбна. Пабачыўшы расьцяжку “Жыве Беларусь!”, адно пракамэнтавалі: “Дзе ж яна жыве, калі 0:2?!” Адзінымі затрыманымі ў гэты дзень сталі маладыя хлопцы, якія нібыта запалілі ў сэктары за брамаю дымавую шашку. Наколькі нам вядома, да іх паставіліся гуманна. Адно што гульню не далі дагледзець. Зрэшты, страта невялікая. Пройгрыш чэхам 0:2 і глядзелі ўжо ня ўсе. А што там глядзець?

**Аляксей Шыдлоўскі**

# Ваша месца ў палаце

**Палаце прадстаўнікоў зноў адмоўлена ў самастойнасьці. Прэзыдэнт заблякаваў праект закону аб нацыянальным сходзе, які прадугледжваў пашырэньне яготых паўнамоцтваў.**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Хто сьмяецца апошнім?

Нежартоўныя спрэчкі разгарэліся вакол законапраекту аб нацыянальным сходзе, падрыхтаванага да другога чытаньня ў палаце прадстаўнікоў. Намер парлямэнтароў адарваць ледзь бачную частку прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў відавочна ўгнявіў Аляксандра Лукашэнку. 9 кастрычніка кіраўнік краіны сабраў нараду з прадстаўнікоў Адміністрацыі і кіраўніцтва нацыянальнага сходу, дзе паставіў ультыматум: "Ні аднаго кроку — ні ўлева, ні ўправа, ні наперад, ні назад — ад Канстытуцыі быць ня можа".

Праект закону аб нацыянальным сходзе быў прыняты ў першым чытаньні яшчэ ў 2000 г. Да другога чытаньня дэпутаты прапанавалі звыш 300 паправак і заўваг. Аднак за два гады большасьць правак зьвяліся да трох момантаў.

### Уласная бухгальтэрыя

Якраз-такі імкненьне Нацыянальнага сходу вырвацца з-пад фінансавае апекі Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта, займеўшы ўласную бухгальтэрыю, выклікае найбольшую *публічную* занепакоенасьць выканаўчай улады. Сябра камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Ўладзімер Навасяд лічыць, што тэхнічна парлямэнт можа абысьціся без бухгальтэрыі. "У Кіраўніцтве справаў прэзыдэнта ёсьць агульны рахунак абедзьвюх палатаў; да нас двойчы на месяц прыяжджае бухгальтар і выдае грошы. Фінансаваньне, рашэньне кватэрных пытаньняў — усё, што вынікае з закону аб статусе дэпутата, ідзе праз тэты разьліковы рахунак. Аднак бухгальтэрыя ў разуменьні дэпутатаў ператварылася ў сымбаль самастойнасьці парлямэнту", — кажа ён.

За ўласную бухгальтэрыю выступаюць і дэпутаты відавочна прапрэзыдэнцкіх поглядаў. Так, старшыня камісіі па міжнародных сувязях і СНД Анатоль Малафееў гаворыць, што ў фінансаваньні праз Кіраўніцтва справаў "ёсьць свае нязручнасьці, зьвязаныя перш за ўсё з паездкамі дэпутатаў за мяжу". Вырашэньне праблемы магчымае пры "наяўнасьці валютных сродкаў у бюджэце парлямэнту". Натальля Машэрава таксама заяўляе, што з-за абмежаванага фінансаваньня "звужаюцца кантакты з парлямэнтарамі іншых краінаў".

### Кантроль за Дзяржкантролем

Не публічным, але самым прадметным спрэчным момантам зьяўляецца прапанова заканадаўча замацаваць за парлямэнтам магчымасьць кантраляваць Камітэт дзяржаўнага кантролю. Гэтая акалічнасьць выклікала ўсплёск эмоцыяў у прэзыдэнта. "Я баюся ланцуговае рэакцыі па перадзеле ўлады. Канстытуцыя ўсім галінам улады вызначыла дакладныя месцы і адвяла ролю ўсім ейным інстытутам, ад прэзыдэнта да мясцовых органаў, таму парушаць баляне улады нікому ў нашай краіне ня будзе дазволена", — жорстка заявіў А.Лукашэнка.

"Уважліва прачытаўшы Канстытуцыю, дэпутаты высьветлілі, што ім не забаронена кантраляваць Камітэт дзяржкантролю — у Канстытуцыі няма простага запісу, што гэта прэрагатыва прэзыдэнта. У працэсе падрыхтоўкі законапраекту ўлада зразумела, што гэта замах на правы прэзыдэнта, у прыватнасьці, на права кантраляваць бюджэт", — сьцьвярджае У.Навасяд.

### Цэнтар законапраектнай дзейнасьці

Трэці спрэчны момант — гэта папраўка У.Навасяда пра аднаўленьне пры парлямэнце Цэнтру законапраектнай дзейнасьці. Падобны інстытут існаваў да рэфэрэндуму 1996 г., а пасьля разгону легітымнага Вярхоўнага Савету XIII скліканьня быў зьліквідаваны. "Такі цэнтар у самыя кароткія тэрміны мог падрыхтаваць законапраект і даць кароткае рэзюмэ па любым палітычным пытаньні. У Беларусі існуе практыка, калі на пачатку кожнага году Цэнтар законапраектнай дзейнасьці пры прэзыдэнце складае плян заканатворчай дзейнасьці на год. Чаму ён мусіць вырашаць за парлямэнт, якія пытаньні яму разглядаць?" — не разумее У.Навасяд.

А.Лукашэнка назваў прапанаваныя ў законапраект праўкі экспэрымэнтам, на які Беларусь ня мае грошай, ды параіў кіраўніцтву нацыянальнага сходу не сьпяшацца зь яго разглядам. Магчыма, увосень гэты закон ня будзе пастаўлены ў павестку дня.

**Глеб Хмяльніцкі**

# Шэйман адкажа

**Палата прадстаўнікоў нацыянальнага сходу нечакана для назіральнікаў вырашыла зрабіць запыт да генэральнага пракурора Беларусі ў справе зьніклых апазыцыйных палітыкаў.**

За прыняцьце гэтага рашэньня прагаласавалі 59 дэпутатаў палаты. На адкрыцьці сэсіі за ўключэньне гэтага пытаньня ў парадак дня галасавалі 56 дэпутатаў. Зараз генпракурор Шэйман мусіць на працягу 30 дзён даць адказ на дэпутацкі запыт, у якім задаюцца пытаньні пра абставіны затрыманьня і вызваленьня са сьледчага ізалятара З.Паўлічэнкі, пра месцазнаходжаньне З.Завадзкага, пра працяг сьледзтва па фактах зьнікненьняў Ю.Захаранкі, А.Красоўскага і В.Ганчара.

Былы начальнік менскага сьледчага ізалятара Алег Алкаеў перадасьць кнігу выдачы расстрэльнага пісталета СІЗА Сяргею Кавалёву, сябру камісіі Парляманцкай асамблеі Рады Эўропы па расьсьледаваньні зьнікненьняў беларускіх апазыцыянэраў. Алкаеў агучыў той факт, што пэрыяды выдачы пісталета камандзіру СОБРу Паўлічэнку супадалі з датамі зьнікненьняў спачатку Юрыя Захаранкі, а потым Ганчара з Красоўскім.

**Б.П.**

# "Мэдалістаў" пабольшае

**У сувязі зь пераходам сярэдняй школы на 10-бальную сыстэму адзнак зьявілася новае Палажэньне аб залатых і срэбраных мэдалях і ганаровай грамаце "За асаблівыя посьпехі ў вывучэньні асобных прадметаў".**

Залаты мэдаль цяпер будуць атрымліваць выпускнікі 11 (12) клясы, якія маюць гадавыя адзнакі "10" і "9" па ўсіх прадметах. Выняткі — фізкультура, дапрызыўная і мэдычная падрыхтоўка: па іх за 2 апошнія гады навучаньня адзнака мусіць быць не ніжэйшая за "6".

Срэбраны мэдаль будзе надавацца выпускнікам, якія ішлі на "золата", але на выпускных іспытах атрымалі ніжэйшыя адзнакі (але не ніжэйшыя за "6"). "Срэбрам" могуць быць узнагароджаныя і тыя выпускнікі, якія маюць гадавыя адзнакі "9" і "10" па ўсіх прадметах, апроч фізкультуры, дапрызыўнай і мэдычнай падрыхтоўкі, а таксама яшчэ двух прадметаў. Па іх адзнака мусіць быць не ніжэйшай за "6".

Тыя ж выпускнікі, якія выдатна ведаюць 1—2 прадметы і маюць па іх адзнакі "9", "10" за год і на іспытах, а па астатніх прадметах — не ніжэйшыя за "6", могуць атрымаць ва ўзнагароду ганаровую грамату.

**Паводле БелаПАН**

# Правіла траіх дзяцей

**Яшчэ перад пачаткам навучальнага году мясцовае ўпраўленьне адукацыі прыняло рашэньне адкрыць у Магілёве на базе нацыянальнай гімназіі беларускую клясу.**

Але толькі чатыры сям'і пажадалі аддаць туды дзяцей. І гісторыя скончылася выклікам міліцыі, якая павінна была нэўтралізаваць старшыню абласной арганізацыі ТБМ Міхася Булавацкага, што намагаўся перадаць афіцыйныя паперы кіраўніку адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Магілёва сп.Лебедзеву. Дзеці працягваюць вучыцца па-расейску, а іх бацькі налета зьбіраюцца зноў паспрабаваць адкрыць беларускую клясу.

Марыля Каралькова з Горак два гады была адзінай вучаніцай беларускае клясы. Але пасьля мясцовае ўпраўленьне адукацыі пачало настойліва раіць бацькам перавесьці дачку ў "звычайную" клясу або вясковую школу. Год дзяўчынка правучылася па-расейску, а летась бацькі вырашылі яе ў школу не аддаваць. Марыля вучыцца дома па падручніках, узятых у вясковай школе. Між тым, паводле інфармацыі Міністэрства адукацыі, школа мусіла арганізаваць навучаньне дзіцяці па індывідуальнай праграме.

**Катарына Іванова, Іван Марозаў, Магілёў**

### камэнтар "НН"

**У адпаведнасьці з новымі правіламі, прынятымі Мінадукацыі, дастаткова заяваў бацькоў траіх дзяцей для арганізацыі беларускамоўнае клясы. Гэтая норма дае добрую магчымасьць стварацьмалыя, зручныя для навучаньня клясы. Таму, калі чатыры магілёўскія сям'і зьвернуцца з аналягічнай просьбай у наступным годзе, кляса будзе арганізаваная.**


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

Ірына Каралькова, маці адзінай у Горках беларускамоўнай вучаніцы

## з усёй краіны

### Грошы на палкаводца

**У сярэдніх школах Крычаўшчыны ідзе збор сродкаў на ўсталяваньне ў Менску помніка савецкаму маршалу Георгію Жукаву.** Ініцыятарам гэтай акцыі выступіла крычаўская рада вэтэранаў. Адміністрацыя навучальных установаў фактычна прымушае сваіх падначаленых здаваць грошы.

### У садок — з бульбай

**Бацькам дзяцей, што наведваюць крычаўскі дзіцячы садок №19, адміністрацыя ўстановы прапанавала прынесьць бульбу.** Бо вострa не хапае харчаваньня. Першапачатковы ўнёсак — 30 кг. Па-рознаму знаходзяць дзіцячыя садкі Крычаўшчыны выйсьце зь няпростага становішча, у якое яны трапілі з прычыны дэфіцыту раённага бюджэту. Напрыклад, выхавацелькі й няні садка №4 два тыдні адпрацавалі ў калгасе на бульбе і такім чынам назьбіралі неабходную для дзетак колькасьць гэтага прадукту.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Музэй між заводам і горадам

**У Барані (Аршаншчына) падзялілі экспанаты гарадзкога музэю.** Той належаў калісьці былому вайсковаму радыёзаводу, што цяпер завецца фірмай "Лёс", і паступова вырас да адлюстраваньня гісторыі ўсяго гораду. Рыхтавалася новая экспазыцыя ў гарадзкім Палацы культуры. Але ў пачатку году, дзеля "аздараўленьня" заняпалага гіганта радыётэхнічнай вытворчасьці, экспанаты былі зноў перавезеныя на завод. Аднaчасова мясцовая вэртыкаль пазбавілася ад дырэктара музэю Віктара Міхасёва, што быў кіраўніком штабу апазыцыйнага кандыдата ў прэзыдэнты на Аршаншчыне. У жніўні музэй, ужо без дырэктара, вярнулі гораду. Вось толькі назьбіраныя музэйныя фонды былі падзеленыя згодна з чыноўніцкім густам, і частка экспанатаў засталася на заводзе.

**Міхал Чарвінскі, Віцебск**

### Biblijateki biez hazet

**U baranavickija biblijateki ŭ kastryčniku nie prychodzić nivodnaja hazeta ci časopis.** U biudžecie horadu niama na heta hrošaj. Ułady abiacajuć niešta zrabić, kab z nastupnaha miesiaca čytačy, a heta ŭ asnoŭnym piensijanery j małazabiaśpiečanyja ludzi, zdoleli čytać presu ŭ čytalniach.

### Padatak na mabilnik

**Baranavickija ŭłady ŭvieś čas uvodziać novyja padatki, kab choć niejak padtrymać haradzki biudžet.** Hetym razam jany vyrašyli zdymać 5% z mabilnaj suviazi. Takim čynam planujecca da kanca hodu dadatkova atrymać kala miljona rubloŭ. Baranavickija ž karystalniki pejdžeraŭ i mabilnikaŭ buduć płacić niedzie na tysiaču rubloŭ bolš.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

### Загінула школьніца

**На чыгуначнай станцыі Косава-Палескае (вёска Няхачава), здарылася трагедыя.** Па розных каляінах ішлі насустрач цягнікі — пасажырскі і грузавы. Адзін зь іх сьмяротна траўмаваў дзяўчыну, што пераходзіла рэйкі. Ахвярай стала вучаніца 10 клясы Зеленаборскай школы Вольга Паплаўская. Яна была адзіным дзіцём у сям'і.

**Алесь Лаўранюк, Івацэвічы**

# Выхад да Бродаў

Працяг са старонкі 1.

Аднак Польшча не сьпяшаецца дабудоўваць свой адрэзак нафтаправоду, што злучыць Броды з Плоцкам. Палітыка зноў-сутыкаецца з гаспадаркай: палякі ня пэўныя, ці будзе для іх той праект эканамічна выгадным, хоць дзяржаўным інтарэсам краіны ён, вядома, адпавядае. Прэзыдэнт Квасьнеўскі некалькі разоў запэўніваў Леаніда Кучму, што праект нафтаправоду стратэгічна важны для Польшчы. Але настроі вышэйшага эшалёну польскай улады не супадаюць зь меркаваньнямі эканамічных дарадцаў ды экспэртаў, якія ня раяць Варшаве ўкладаць дзяржаўныя грошы ў нафтаправод — маўляў, нехай гэтым займаецца прыватны бізнэс.

## Польшча вагаецца

Непакоіць палякаў і тое, што за пабудову 500-кілямэтровага адрэзку Броды—Плоцк узялася кампанія *"Golden Gate"*, якая мае дрэнную рэпутацыю. Зь ёй зьвязаныя бізнэсоўцы, замяшаныя ў махінацыях вакол паставак расейскага газу, продажу былой савецкай нерухомасьці, алькагольных афэрах. Поўны кошт пабудовы польскай часткі нафтаправоду — 430 млн. эўра. Патрэбных інвэстыцыяў *"Golden Gate"* пакуль ня мае, як і бізнэс-пляну іх вяртаньня пасьля рэалізацыі праекту.

Прыкасьпійскія дзяржавы таксама ня пэўныя, ці ім выгадны новы трубапровад. Касьпійская нафта вельмі якасная, яна лягчэйшая ды сьвятлейшая за расейскую сумесь *Urals*, што йдзе на экспарт. Але на выхадзе за межы Ўкраіны абодва гатункі непазьбежна будуць зьмешвацца ў трубе. Украінцы яшчэ не прапанавалі дакладнай сыстэмы кампэнсацыі за "разьведзеную" нафту.

## Да паліўнай незалежнасьці — 183 км

Плянуецца, што прыкасьпійскія краіны наступныя 10 гадоў будуць прадаваць па 100—150 млн. тонаў нафты ў год. Дзеля параўнаньня: максымальная колькасьць нафты, якую можа спажыць Беларусь за год, — 7—8 млн. тонаў.

Калі палякам гэтак нявыгадна будаваць магістраль Броды—Плоцк, тэарэтычна можна пусьціць нафту па гатовых ужо трубах — праз Мазыр. Адзінае "але" — цяпер на адрэзку Мазыр—Броды яна цячэ ў супрацьлеглым кірунку, зь Беларусі ва Ўкраіну. Каб далучыцца да "касьпійскага калектару", трэба зьдзейсьніць "рэвэрс" — пусьціць нафту ў адваротны бок. У аддзеле транспартаваньня ды перапрацоўкі нафты канцэрну "Белнафтахім" патлумачылі, што на адрэзку нафтаправоду, які злучае Броды і Мазыр, гэта тэхнічна немагчыма. Адзінае выйсьце — класьці новую трубу. Такі варыянт быў бы нават больш пажаданым — паралельныя нафтаправоды даюць магчымасьць выбару ды павялічваюць прыбыткі ад транзыту.

У аналітычным зборніку "Беларуска-расейская інтэграцыя", што выйшаў сёлета, Натальля Тагановіч, загадчыца сэктару праблемаў паліўна-энэргетычнага комплексу Інстытуту эканомікі Беларусі, кажа пра магчымасьць транспартаваньня нафты па маршруце Адэса—Броды—Мазыр—Бабовічы—Касьцюковічы—Полацак. Дзеля гэтага давядзецца дабудаваць 183-кілямэтровы ўчастак трубаправоду паміж Бабовічамі ды Касьцюковічамі. Фактычна гэта зьдзяйсьненьне праекту Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектару, пра які шмат казалася ў пачатку 90-х. Паводле ацэнак спн.Тагановіч, гэты варыянт патрабуе 80,3 млн. даляраў інвэстыцыяў — нашмат менш, чым будаўніцтва польскага ўчастку трубаправоду. З Полацку ўжо ёсьць труба да латыскага порту Вэнтспілс, апроч таго, нафтай будзе забясьпечаная ўся Прыбалтыка. У ажыцьцяўленьні такога праекту будуць зацікаўлены як балтыйскія краіны, так і Эўразьвяз, у які яны хочуць уступіць. Так што на іх можна разьлічваць у справе фінансаваньня будовы.

## Калідор для Расеі

Калі палякі адмовяцца будаваць адрэзак Броды—Плоцк, украінскаму ўраду давядзецца вырашаць: застаецца з трубой у нікуды ці прасіць дапамагчы Беларусь — краіну, што да нядаўняга часу трымалася курсу на максымальна хуткую інтэграцыю з Расеяй, якая найбольш пацерпіць ад гэтага праекту.

Варта ў зьвязку з гэтым прывесьці цытату з характарыстыкі расейскай інтэграцыйнай палітыкі, дадзенай Інстытутам міжнародных эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Расейскай акадэміі навук: "Інтэграцыйную палітыку Расеі немагчыма патлумачыць чыста эканамічнымі прычынамі. Для Расеі інтэграцыя мае найперш геапалітычнае значэньне. Прарасейская арыентацыя Беларусі разрывае Балта-Чарнаморскі калідор, які ў адваротным выпадку можа адгарадзіць Расею ад асноўных магістраляў транспартаваньня нафты праз Латвію і Літву ў Балтыйскае мора і праз Украіну — у Чорнае. У выпадку ажыцьцяўленьня гэтага праекту заходнія постсавецкія рэспублікі ня толькі пазбавяцца ад расейскае энэргазалежнасьці, але і могуць стварыць Маскве рэальную канкурэнцыю ў пытаньнях рээкспарту расейскай нафты ў Эўропу.

Пасьля ж збудаваньня на тэрыторыі Беларусі газаправоду Ямал—Заходняя Эўропа, Балта-Чарнаморскі калідор распадзецца на два самастойныя напрамкі — паўночны і паўднёвы". Словам, сёньняшняе пытаньне, ці ня варта пабудаваць яшчэ адну трубу да Бродаў, — пытаньне геапалітычнай будучыні Беларусі.

**Алесь Кудрыцкі, Сяргей Рак**




**У касьпійскім рэгіёне знаходзіцца каля 10% усіх сусьветных запасаў нафты. Самыя пэрспэктыўныя радовішчы — "Тэнгіз" і "Кашаган" у паўночнай частцы Касьпійскага мора. "Кашаган" увогуле самае вялікае радовішча ў сьвеце, знойдзенае за апошнія 30 гадоў.**

### Тэхнічныя характарыстыкі нафтаправоднай сыстэмы "Адэса—Броды":

| | |
|---|---|
| Даўжыня | 674 км |
| Дыямэтар трубы | 1020 мм |
| Пачатковая прапускная здольнасьць | 9—14,5 млн. тонаў/год |
| Прапускная здольнасьць пасьля ўвядзеньня 2-й чаргі | 45,0 млн. тонаў/год |
| Колькасьць галоўных помпавых станцыяў | 1 |
| Колькасьць галоўных помпавых станцыяў пасьля ўвядзеньня 2-й чаргі | 3 |
| Дэдвэйт танкераў | до 100 тыс. тонаў |
| Ёмістасьць рэзэрвуарнага парку 1-й чаргі | 200 тыс. м³ |
| Ёмістасьць рэзэрвуарнага парку пасьля ўвядзеньня 2-й чаргі | 600 тыс. м³ |

**Прапускная здольнасьць, млн. тонаў/год**

| | існуючая | пэрспэктыўная |
|---|---|---|
| Баку—Супса | 6 | 15 |
| Баку—Новарасійск | 15 | 15 |
| Тэнгіз—Новарасійск | 28 | 67 |
| Разам | 49 | 97 |

## эканамічная хроніка

### Прызавы — кожны трэці

**"Беларускія лятарэі" выпусьцяць новую сэрыю квіткоў "Імгненьне ўдачы" коштам 1000 рублёў.** Іх плянуюць прадаць 120 тыс. Прызавым будзе амаль кожны трэці квіток. Цяпер у Беларусі дзейнічае дзясятак лятарэяў, недзе кожны шосты квіток — прызавы. Сёлета прадалі квіткоў на мільярд 480 млн. рублёў. Зь іх у бюджэт трапіла 131 млн. 915 тыс. рублёў, 700 млн. пайшло на прызавыя фонды.

### Ільготы не для ўсіх

**Сацыяльныя страхоўкі адменяць для прадпрымальнікаў-пэнсіянэраў, інвалідаў і студэнтаў.** У Міністэрстве працы кажуць, што льготаў іншым прадпрымальнікам пакуль не дадуць. Сёньня запазычанасьць прадпрыемстваў і калгасаў пэнсійнаму фонду складае 75% ад патрэбы на выплаты пэнсіянэрам за месяц.

### Веды за грошы

**Урад зацьвердзіў сьпіс платных паслугаў у сфэры адукацыі.** Так, школам дазволілі ладзіць дадатковыя заняткі з вучнямі за грошы. У найбліжэйшы месяц будуць распрацаваныя тарыфы на платныя паслугі.

### Сто гадоў гарантыі

**Маналітныя масты пачалі вырабляць на "Менскаблдарбудзе".** Каштуюць яны на 30% таньней, бо іх ня трэба зьбіраць з асобных жалезабэтонных частак. Прадпрыемства дае маналітнаму мосту гарантыю да 100 гадоў.

### Стаўкі на дзяржзамову

**Мінімальныя ганарары мастакам і скульптарам вызначыла Міністэрства культуры.** Цяпер творцы, што выконваюць дзяржзамову, будуць атрымліваць ад трох базавых велічыняў (33300 руб.) за замалёўкі і эскізы да 400 БВ (4.440.000 руб.) за манумэнт.

### Закон пра цукар

**Дырэкцыя Скідальскага цукровага камбінату зьвярнулася да ўладаў Гарадзеншчыны з прапановай ініцыяваць закон,** які б рэгуляваў адносіны паміж перапрацоўшчыкамі, пастаўнікамі сыравіны й рэалізатарамі. Цана на цукар павінна фармавацца на прадпрыемстве з улікам сабекошту прадукцыі, лічаць скідальцы. Сёньня яна ўсталёўваецца кіраўніцтвам краіны, пры гэтым інтарэсы пастаўнікоў сыравіны і перапрацоўшчыкаў амаль ня ўлічваюцца.

### На "Шкло-Глушы" глуха

**Драмай для жыхароў пасёлку Глуша (Бабруйшчына) сталася закрыцьцё мясцовага заводу, на якім працавала траціна двухтысячнага насельніцтва.** Попыт на вырабы ААТ "Шкло-Глуша" — каньячныя й гарэлачныя бутэлькі, пляшкі для кетчупаў і пэпсі-колы — рэзка паменшаў, прадпрыемства вінаватае вялізныя сумы па банкаўскіх рахунках, крэдытах і за энэргарэсурсы. Адзін з крэдытораў зьвярнуўся ў гаспадарчы суд, і той абвясьціў ААТ банкрутам. Іншай працы ў пасёлку няма, і нават неабходныя 2/3 сярэдняга заробку крэдытары адмаўляюцца выплачваць. Толькі ў жніўні выдаткавана 25 млн. рублёў, якія разьмеркавалі найперш паміж сем'ямі, чые дзеці павінны былі пайсьці ў школу.

На 22 кастрычніка прызначаныя таргі па продажы маёмасьці прадпрыемства.

### Новая прадстаўніца МВФ

**1 лістапада распачне працу новы прадстаўнік МВФ у Беларусі й Літве Зюзана Брыксіёва.** Жыць З.Брыксіёва будзе ў Вільні. Нарадзілася яна ў Чэхаславакіі, займалася праблемамі эканомікі Блізкага Ўсходу. На стаўленьні МВФ да краіны гэтае прызначэньне не адаб'ецца.

### "Санта" сэртыфікаваная

**Першы ў Беларусі сэртыфікат адпаведнасьці міжнароднай сыстэме *HACCP* (*Hazard Analysis and Critical Control Point*) атрымала прадпрыемства "Санта-Брэмар"**, што працуе ў вольнай эканамічнай зоне "Берасьце" і вырабляе прадукты харчаваньня. *HACCP* гарантуе якасьць прадуктаў і з 2004 г. зробіцца абавязковай у Эўропе.

### "Гомсельмаш" — банкрут?

**Абвясьціць "Гомсельмаш" банкрутам хоча санкт-пецярбурскае ТАА "Петракамплект", якому гомельцы нібыта вінныя 2 млн. расейскіх рублёў за мэталапракат.** Між тым, запазычанасьць калгасаў і саўгасаў самому "Гомсельмашу" складае 40 млн. рублёў. Заробкаў там не атрымлівалі са жніўня. Судзьдзя Сяргей Калодка вярнуў пазоў расейцаў на дапрацоўку: не былі ўлічаныя ўмовы беларускага Закону аб банкруцтве.

**А.К., С.І.**

Працяг са старонкі 1.

# Купляць ці будаваць

*У выпадку далейшага павышэньня кошту камунальных паслуг чакаецца зьніжэньне цэнаў на нерухомасьць*




**Кватэрны індэкс Беларускага таварыства ацэншчыкаў (БТА) уяўляе сабой сярэдні кошт квадратнага мэтра агульнай плошчы кватэр па ўсім аб'ёме прапановы.**

**Ільготныя дзяржаўныя крэдыты для сем'яў з даходам да 2 мінімальных спажывецкіх бюджэтаў на чалавека (сёньня 264 тыс. рублёў).** Такі варыянт падаецца самым прывабным. Крэдыт складае 75% кошту кватэры ў горадзе і 90% — у вёсцы. Тэрмін крэдыту — 20 гадоў пад 10% гадавых. Залежна ад плошчы кватэры плаціць трэба 50—100 тыс. штомесяц. Гэта таньней, чым здымаць аднапакаёўку ў Малінаўцы ці Чыжоўцы. Адно бяда: статыстыка сьведчыць, што ў адным Менску на дзяржаўныя крэдыты прэтэндуюць 129 тыс. сем'яў, а атрымліваюць іх усяго 2 тыс. штогод. Абмежаванасьць крэдытных сродкаў прымусіла ўлады сталіцы "абрэзаць" жыльлёвую чаргу льготнікаў на 1990 г.

Пэрспэктывы таксама сумныя. Згодна з плянам урадаў Беларусі і Расеі аб пераходзе на адзіную валюту, з 2004 г. будзе забаронена эмісійнае крэдытаваньне дэфіцыту бюджэту, у тым ліку і жыльлёвага будаўніцтва. Наступствы можна будзе адчуць ужо налета. Бюджэт-2003 мае выдаткаваць на жыльлёвыя крэдыты 140 млрд. рублёў, або на 6% болей, чым сёлета. Аднак у сувязі з інфляцыяй сапраўдны кошт крэдытаў зьменшыцца. Прычым, цьвердзяць у Нацбанку, скарачэньне дзяржаўных выдаткаў на будаўніцтва жыльля будзе адбывацца і надалей.

### Цэны розьняцца ўдвая

**Будаўніцтва за свае грошы** падаецца болей рэалістычным. Калі пашанцуе і за дом возьмецца ўпраўленьне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкаму, адзін квадратны мэтар кватэры будзе каштаваць 180—220 даляраў, адпаведна, 40-мэтровая аднапакаёўка — 7200—8800. Пры гэтым зноў-такі давядзецца счакаць некалькі гадоў у чарзе. Магчымасьці будаваць у дзяржаўнай структуры не бязьмежныя, таму цяпер у гарвыканкаме назапасілася амаль тысяча "мёртвых" заяваў. Задаволіць іх няма як, таму сёлета прыём заяваў спынілі ўжо ў лютым. І надзеі, што сытуацыя палепшыцца налета, — ніякай.

Будаваць сваім коштам можна і праз камэрцыйныя арганізацыі. Тут ня трэба ані стаяць у чарзе, ані мець менскую прапіску. Але гэта адзіная перавага. Падчас будаўніцтва дому камэрцыйныя арганізацыі мусяць уключаць у яго кошт 27% надбаўкі на разьвіцьцё сталічнай інфраструктуры. І яшчэ. У адрозьненьне ад дзяржаўнай управы капітальнага будаўніцтва, тут могуць вызначаць уласныя цэны. У выніку мэтар у "панэльніках" можа каштаваць 320—360 даляраў, а стандартная аднапакаёўка, адпаведна, — 12800—14400. Кошт кватэры ў цагляным доме вышэйшы недзе ў паўтара разу.

### Валюта для заможных

**Валютныя крэдыты** запрапанаваў з гэтага году "Беларусбанк". Іх даюць як на куплю, так і на будаўніцтва кватэры. Але падчас разьліку памеру крэдыту бярэцца пад увагу ня рынкавы кошт жыльля, а сума, вызначаная Бюро тэхнічнай інвэнтарызацыі. Зазвычай яна меншая разы ў два. Цяпер пра агульныя ўмовы. Максымальная сума валютнага крэдыту — 90% ад кошту кватэры, максымальны тэрмін — 6 гадоў. Плаціць за крэдыт трэба 15% гадавых — у далярах, эўра ці беларускіх рублях па курсе.

Браць валютны крэдыт мае сэнс хіба ў выпадку, калі на куплю ці будаўніцтва кватэры не стае невялікай сумы — 1—2 тыс. даляраў. Чаму? Па-першае, з-за маленькага тэрміну і высокай працэнтнай стаўкі самі ўмовы вельмі нявыгадныя. А падругое, крэдыт дадуць толькі плацежаздольным. На пазыку ў 10 тыс. даляраў тэрмінам на 6 гадоў можа прэтэндаваць толькі грамадзянін Беларусі, які зарабляе больш за 900 тыс. рублёў і, апроч таго, знойдзе даверчую асобу з гэткім самым даходам. У "Беларусбанку" тлумачаць проста: штомесячныя выплаты па крэдыце складаюць пад 400 тыс. рублёў. А стварыць сабе дадатковыя праблемы банк ня хоча.

### Харомы з часам патаньнеюць

Калі **купляеш жытло**, трэба зважаць на ваганьні цэнаў. Так, зь вясны менскія кватэры нечакана "падскочылі" на 500—700 даляраў. Цяпер трохпакаёўкі ў сярэднім каштуюць па 25—27, двухпакаёўкі — 18—20, аднапакаёўкі — 11,5—13 тыс. даляраў. Калі вы купляеце кватэру не ў знаёмых, да гэтага пажадана дадаць 500—600 даляраў за паслугі рыэлтара: у выпадку махлярства кампэнсаваць усе страты будзе вымушаная фірма, якую ён прадстаўляе.

І ўсё ж менавіта шлях "марудната зьбіраньня грошай" у цяперашніх варунках выглядае найбольш аптымальным. Цягам наступных двух гадоў у Беларусі значна падаражэюць камунальныя паслугі, а ў выніку жыльлё (асабліва трох- і чатырохпакаёўкі) можа патаньнець у 1,5—2 разы. Прынамсі, гэтак адбылося ў Літве і Латвіі ў сярэдзіне 1990-х.

**Сяргей Іваноўскі**

### Дынаміка паказчыка структуры рынку

*(студзень 2000 — ліпень 2002)*

| Месяц дасьледаваньня | 01 2000 | 04 2000 | 07 2000 | 10 2000 | 01 2001 | 04 2001 | 07 2001 | 10 2001 | 01 2002 | 04 2002 | 07 2002 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прапанова | 3 562 | 5 261 | 2 216 | 2 299 | 2 200 | 2 848 | 3 080 | 3 094 | 1 899 | 4 245 | 3 739 |
| Попыт | 730 | 963 | 719 | 1 179 | 853 | 679 | 730 | 879 | 612 | 768 | 442 |
| Паказчык структуры рынку | 4,88 | 5,46 | 3,08 | 1,95 | 2,58 | 4,19 | 4,22 | 3,52 | 3,1 | 5,53 | 8,46 |

**Паказчык структуры рынку адлюстроўвае фактычнае перавышэньне прапановы над попытам.**

# Дзе трымаць грошы?

**З пачатку году банкаўскія ашчаджэньні беларусаў у рублях павялічыліся больш чым на 80%, а ў свабодна канвэрсоўнай валюце — на 10%. Гэта тлумачыцца ня столькі ростам даверу да банкаў, колькі жаданьнем зь іх дапамогай "пабегаць навыперадкі" з інфляцыяй.**




Традыцыйная практыка пераводзіць лішак грошай у СКВ сёлета не спрацоўвае. Інфляцыя (23% са сьнежня) расьце хутчэй за курс даляра (18%), што выклікае зьніжэньне пакупніцкай вартасьці "мёртвай" валютнай гатоўкі. У гэткіх умовах прапановы камэрцыйных банкаў падаліся людзям больш прывабнымі. Намінальныя даходы па ўкладах у рублях сёньня складаюць у сярэднім 60% гадавых (5% штомесяц), што апераджае ўзровень інфляцыі прынамсі ўдвая.

Крыху іншая сытуацыя з банкаўскімі ашчаджэньнямі ў валюце. Намінальныя даходы па іх зазвычай не перавышаюць 12% гадавых (0,5% штомесяц).

### Рызыка ёсьць заўсёды

Ці варта давяраць свае грошы банкам? Усе мы памятаем суседзкія "чорныя аўторкі" ды "жнівеньскія дэфолты". Не дадае аптымізму і той факт, што праблема гарантыяў да канца ня вырашаная ні ў адной краіне сьвету. Сума кампэнсацыі, якую атрымліваюць укладнікі банку ў выпадку яго банкруцтва, дастаткова абмежаваная. У большасьці краінаў Эўразьвязу сума выплатаў зь міжбанкаўскіх рэзэрвовых фондаў ня можа перавышаць 20 тыс. эўра. Лічыцца, што чалавек, які разьлічвае мець ад укладаў прыбытак, мусіць узяць на сябе частку рызыкі.

Яшчэ больш заблытанае становішча ў Беларусі. За 11 гадоў незалежнасьці так і ня быў прыняты закон аб кампэнсацыі ўкладаў фізычным асобам. Таму ў кожным надзвычайным выпадку ўраду даводзілася "шукаць варыянты". Так, абавязкі банку "Пошук", які быў збанкрутаваў, перайшлі да Нацбанку, а "БелБалтыі" — да "Беларусбанку". Праўда, гэткі мэханізм кампэнсацыі можна назваць умоўным. З укладнікамі "Пошуку" не разьлічыліся дагэтуль, укладнікам "БелБалтыі" сплацілі ня болей чым па 500 даляраў.

Што праўда, беларусы ніколі не былі рызыкантамі. Цяпер "сярэдні" грамадзянін краіны трымае на банкаўскіх рахунках у рублях і СКВ разам толькі 36 даляраў. Між тым, экспэрты Нацбанку цьвердзяць, што "панчошныя" ашчаджэньні перавышаюць гэты паказьнік прынамсі ў 11—14 разоў.

### Як пазьбегнуць памылак?

Грошы мусяць рабіць грошы — рана ці позна гэта станецца аксіёмай ня толькі для бізнэсоўцаў. Адно што пры любым стане эканомікі выбар "свайго" банку давядзецца рабіць самастойна. Каб не памыліцца, трэба памятаць колькі агульных парадаў.

Па-першае, ніколі ня верце рэкляме. Больш дакладная крыніца інфармацыі — банкаўскія справаздачы, што друкуюцца ў газэтах. Чым большымі грашыма апэруе банк і чым большыя агульныя рэзэрвы — тым больш гарантыяў.

Па-другое, вас не павінны ўводзіць у зман высокія працэнты па ўкладах. 300% гадавых — падстава засумнявацца. Таму што буйныя банкі, якія ня маюць патрэбы нарошчваць актывы любой цаной, прапануюць менш выгадныя ўмовы.

Па-трэцяе, нялішне нагадаць, што цяпер дзяржава гарантуе поўную захаванасьць укладаў у рублях і ў СКВ толькі ў "Беларусбанку" і "Белаграпрамбанку", а валютных укладаў — яшчэ ў "Белзьнешэканамбанку", "Прыёрбанку", "Белінвэстбанку", "Белпрамбудбанку".

І самае галоўнае. Лепш не давяраць усіх грошай аднаму банку, а разьмеркаваць іх паміж некалькімі. Рызыка нашмат зьменшыцца.

**С.І.**

## лічбы тыдня

**НА 1%** — да 39% гадавых Нацбанк зьменшыць стаўку рэфінансаваньня і ўліковую стаўку з 21 кастрычніка.

**НА 16,7%** павялічыўся за восем месяцаў экспарт тавараў зь Беларусі ў краіны, якія не належаць да СНД. Экспарт у краіны СНД паменшаў на 6,8%, у тым ліку ў Расею — на 2,1%.

**КОЖНЫ ПЯТЫ** з 2 млн. 477 тыс. пэнсіянэраў афіцыйна працягвае працаваць. Краіна старэе: цяпер на 100 пэнсіянэраў прыпадае 165 працаздольных. Сярэдні памер пэнсіі складае 80,4 тыс. рублёў.

**3 З 11 УЧАСТКАЎ** пад пабудову супэрмаркетаў у Менску разьмеркаваныя паміж ТАА "Гандальптыма" (2 участкі), што мае ўжо міні-рынак у Малінаўцы, ды англельска-беларускім прадпрыемствам "БелВілесдэн" (1 участак). Хто атрымае астатнія — будзе вядома да пачатку 2003 г.

**100 ТОНАЎ** — такі аб'ём будзе мець новая печ-коўш, якую сёлета паставяць на Беларускім мэталюргічным заводзе. Яна дапаможа павялічыць вытворчасьць на 18% ды ашчадзіць электрычнасьць на 5%. Праект ды тэхналёгія печы распрацаваныя аўстрыйскай кампаніяй "Фэст-Альпінэ".

**НА 4 МЛН. ДАЛЯРАЎ** хоча купіць камбайнаў у "Гомсельмашу" ўрад Аргентыны.

**60,5 МЛН. ДАЛЯРАЎ** склала запазычанасьць па заробках у пачатку кастрычніка — гэта 20% ад усіх налічаных за месяц грошай. Найбольш завінаваціліся сваім працаўнікам калгасы і саўгасы (47,2 млн.). Некаторыя зь іх яшчэ не сплацілі грошай за люты.



# Вострая Брама: 1997—2002

**Споўнілася пяць гадоў радыёпраграме "Вострая Брама". Яна пачыналася як супольны праект "Нашай Нівы" і Беларускай службы радыё "Свабода". Кожную нядзелю на хвалях "Свабоды" гучалі рэпартажы, рэфлексіі, гутаркі, якія адначасова знаходзілі сваё месца на старонках газэты. Адноўлены і перачытаны кантэкст беларускае культуры XX стагодзьдзя ў "Вострай Браме" пераплаўляецца ва ўнікальны нацыянальны радыёнаратыў. Нічога падобнага да "Брамы" на беларускіх радыёстанцыях няма. У "НН" — урыўкі з "Брамаў" за пяць гадоў.**

### Сьмяротны двубой (Вострая Брама і Курган Славы)

Вострая Брама і Курган Славы ўступаюць у этычны і эстэтычны канфлікт менавіта як хрысьціянская і паганская сьвятыні. Вострая Брама — міжканфэсійны сымбаль. Для кургнаслаўшчыкаў ён незразумелы і чужы. Курган Славы — для вастрабрамшчыкаў — сымбаль чужое вайны на беларускай зямлі. Даводзячы гэты раскол да зусім канкрэтнага знакавага ўзроўню, я спрабую паставіць эстэтычную задачу: верш, у якім бы апяваліся Вострая Брама і Курган Славы адначасова. Можа быць, калі такі верш усё ж зьявіцца, тады адбудзецца і наша нацыянальная кансалідацыя.

*20 кастрычніка 1997 г.*

### Інтэрнэт адкрывае беларускую культуру

Галоўная асаблівасьць Інтэрнэту — гэта ягоная ўсеагульнасьць. У гэтай прасторы беларуская культура сапраўды адкрытая сьвету. Яе творы могуць уваходзіць у Інтэрнэт у любым пункце зямлі і ў любым іншым пункце прымацца. Яе будучыня тут залежыць толькі ад яе самой.

*15 сьнежня 1997 г.*

### Незаўважаны Чарнобыль

У нашай краіне ня толькі начальства ператварыла катастрофу ў прафанацыю, але і грамадзтва дазволіла начальству гэта зрабіць. "Духоўны Чарнобыль" — ці ня самая моцная мазахісцкая вынаходка нашых трыбунаў, якая ставіць кропку на любым душэўным неспакоі. Вось яна — фатальная бездапаможнасьць, супраць якой не папрэш, хіба што ты сам прарок Майсей ці Данка, гатовы вырваць сваё сэрца.

*29 красавіка 1998 г.*

### Усё наадварот

Магчыма, некалі мне ўдасца адказаць на сваё адкрытае пытаньне пра ролю майго асобна ўзятага народу ў гісторыі. Ня хочацца зьвязваць з нацыянальным характарам або прыроднымі дадзенымі. Хоць, шчыра кажучы, калі чую хоць афіцыёзныя, хоць апазыцыйныя развагі пра самую кваліфікаваную нацыю ў Эўропе або пра тое, што мы самыя працавітыя і сьціплыя, мой уласны жыцьцёвы досьвед пачынае ціхенька пратэставаць. Магчыма, некалі варта будзе казаць пра адваротнае — пра тое, што чуў і бачыў. І калі б газэты пачалі шырока пісаць пра самую бяздарную і гультайскую, самую жлобскую, як пяе Шалкевіч, нацыю ў Эўропе, тады і адбыўся б той жаданы катарсыс, які б ператварыў беларусаў у проста нармальных спасярод іншых народаў.

*28 сьнежня 1998 г.*

### На пратоках

Беларусам няма як яднацца ў агульным комплексе віны, што іншым народам часам дужа дапамагае, як, скажам, немцам. Не аб'ядноўвае нас і комплекс ахвяры або богаабранасьці. Адзіная характарыстыка, агульная для беларусаў, якая, тым ня менш, іх ня лучыць, а часьцей разьядноўвае, — гэта некрытычнасьць у дачыненьні да сябе. Магчыма, яна і робіць нашых людзей такімі бездапаможнымі перад абліччам крызысу і перад абліччам будучыні. Савецкі стандарт жыцьця з усёй яго безадказнасьцю чалавека за сябе і свае ўчынкі — вось да чаго сёньня заклікае беларусаў начальства.

А можа, нам пачаць сьмяяцца з сваёй бездапаможнасьці, паняволенасьці? Саркастычна высьмейваць тую працавітасьць, гасьціннасьць і сьціпласьць, над якімі мы выплакалі ўжо не адну самазамілаваную сьлязу? Ці знойдуцца ў народзе на такое сілы?

*11 студзеня 1999 г.*

### Што аб'ядное нас?..

Беларусаў найлепей яднае вёска. Менавіта здрада вёсцы наймацней разьяднала беларусаў як нацыю. Беларусы так і не стварылі сваёй гарадзкой культуры. Аб'ядноўваць для нас — значыць павярнуцца да вёскі і палюбіць яе так, як любілі нашыя продкі.

*8 лютага 1999 г.*

### Крыўда і Праўда ў беларускім культурным кантэксьце XX ст.

Усё наша нацыянальнае адраджэньне мае ў сабе гэты матыў — пакрыўджанасьці, у першую чаргу калі заходзіць гаворка пра беларускую мову. Гэты плач ці нават хныканьне прысутнічалі на ўсіх зьездах пісьменьнікаў апошніх гадоў. Пры гэтым не зьвярталася ўвагі на тое, што такім чынам выяўляецца слабасьць, бездапаможнасьць і тое, што паэт Ігар Бабкоў назваў маргіналізацыяй літаратуры.

*29 сакавіка 1999 г.*

### Гэпі-энд для Чарнобылю

У грамадзкім усьведамленьні Чарнобылю не хапае крэйсэра, надзеі на гэпі-энд, увогуле надзеі. Чарнобыль падбіў жыцьцяздольнасьць нацыі ня столькі радыенуклідамі, колькі гэтай вось безнадзёгай. Нацыя — у сваёй сьвядомасьці абкладзеная незразумелай і абсалютнай пагрозай — ніяк ня бачыць уласнае будучыні. Застаецца толькі марудна апускацца ў нішто.

*26 красавіка 1999 г.*

### Тры мільёны за боязь NATO

Антынатаўскія настроі спрэс перагукаюцца з прызабытым ад часоў першага нашаніўства панацыцем цемры народнай.

Народ, беларускі народ!  
Ты цёмны, сьляпы, быццам крот.

*5 ліпеня 1999 г.*

### Самаедзтва гісторыкаў

Варта нейкай зьяве толькі пакінуць межы нашай краіны, як шэрая беларуская гліна ператвараецца ў золата чужое гісторыі. Трапяткое стаўленьне нашых гісторыкаў да гістарычных фактаў сьведчыць пра маладосьць і слабасьць беларускай гістарычнай навукі. У выніку нічога не напрацоўваецца ў грамадзкай сьвядомасьці, а шчырае шуканьне праўды адбіваецца адваротным вынікам. Для масавае сьвядомасьці сымбалі важнейшыя за значэньні.

*27 верасьня 1999 г.*

### Дзяды — не "Деды"

Разьвітаньне з камунізмам у Расеі на ўзроўні народнай сьвядомасьці адбылося надзвычай лёгка. Ні ў якае параўнаньне ня йдзе сытуацыя зь беларускай народнай сьвядомасьцю, якая яшчэ доўга будзе разьвівацца са сваім сацыялізмам. Гэта сьведчыць пра прыродны кансэрватызм і, у выніку, жыцьцяздольнасьць нашай нацыі, якая спрадвеку імкнецца "старыны ня рухаць, а навіны ня ўводзіць". Можна сабе ўявіць, што пры ўмацаваньні ў душах людзей станоўчых арыентацыяў мы можам стаць адным з найбольшых прыхільнікаў дэмакратыі і рынкавай эканомікі сярод суседзяў.

*1 лістапада 1999 г.*



ДЗЯНІС РАМАНЮК

**Аўтар і вядучы "Вострае Брамы" — Сяргей Дубавец. У несфармаванасьці культурнага кантэксту ён бачыў прычыну глябальнае дэзарыентацыі нацыі. З жаданьня пераадолець такую сытуацыю і нарадзілася гэтая літаратурная па духу праграма, унікальная па працяглласьці існаваньня і фармаце. "Брама" вылучае ўзаемасувязі асобных падзеяў культурнага, акадэмічнага і грамадзкага, палітычнага жыцьця. Сярод суаўтараў Дубаўца — сьпявак Зьміцер Бартосік, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.**

### Дзяцінства нацыі

Апошнім часам усё часцей пераконваюся, што паводзіны і развагі беларусаў нагадваюць учынкі і думкі дзіцяці. Ня тое каб у гэтым было нешта кепскае. Можа быць, нават наадварот. Бо гаворка ідзе не пра інфантылізм ці затарможанасьць, а менавіта пра раньнюю стадыю разьвіцьця, паволнае, але няўхільнае станаўленьне нацыі.

Беларусы ня ведаюць свае гісторыі. Яны яшчэ замалыя, каб чытаць гістарычныя кніжкі. Вось падрастуць і з задавальненьнем будуць даведвацца пра дзядоў сваіх з ВКЛ. Стаўленьне беларусаў да прыватнай уласнасьці, да прыняцця рашэньняў альбо, скажам, да сэксу з дакладнасьцю паўтарае стаўленьне дзяцей.

XXI ст. абяцае быць спрыяльным для нас. Гэта значыць, што дзіця будзе сталець, усё ясьней разумеючы сябе й свой будучы лёс. Дзіця не вінаватае ў тым, што яно малое і паводзіць сябе ня так, як дарослыя. Зь іншага боку (гэта да папрокаў на адрас беларусаў), неразумна, гледзячы на малое, якое вучыцца хадзіць і гаварыць, казаць пра гібель нацыі і гібель мовы.

*3 студзеня 2001 г.*

### Пасаджэньне на кол

Менавіта арыстакратызму так баіцца Аляксандар Лукашэнка ў сваёй апазыцыі, калі кажа пра іх, што яны пасадзяць яго на кол. Верагодна, якраз у арыстакратызьме хаваецца вялікая сіла вяртаньня краіны з прастою на шлях разьвіцьця.

Казачок, гарачая галава, сымбалізуе сабой вольніцу і адсутнасьць прымусу, а Радзівіл патрабуе парадку і дысцыпліны. Радзівіл сымбалізуе герархію паводле паходжаньня, маёмасьці, здольнасьцяў, адукацыі. У выніку атрымліваецца поступ — растуць гарады, павялічваецца скарб, адкрываюцца ўнівэрсытэты, выдаюцца кнігі, краіна і нацыя набывае міжнародны прэстыж.

*7 траўня 2001 г.*

### "Восень патрыярха"

Дыктатар сапраўды рукатворны. У стварэньні яго ўдзельнічае ўвесь народ. Больш-менш тыпова выглядае шэраг апалягетаў — прапагандыстаў, самадураў і запалоханых. Тут найменш выяўляецца нацыянальная сутнасьць. Але за дзесяць гадоў стварыліся вобразы апазыцыйнага палітыка, апазыцыйнага творцы, апазыцыйнай моладзі — такія непадобныя да падобных у іншых культурах. І самае галоўнае — паўстаў зусім іншы беларус, якога раней не было. Гэта беларус перад выбарам.

Варта згадаць яшчэ адзін досьвед паўднёваамэрыканскіх дыктатураў. Яны спрычыніліся да фармаваньня нацыяў. Не хачу, каб падумалі, што я стаўлю нацыянальнае станаўленьне ў заслугу дыктатуры. Гэта прыродная зьява і адбываецца сама сабою. Але гарт нацыя набывае ў супрацьстаяньні. Альбо ў экспансіі вонкі, або ўнутры сябе мацнее духам.

*10 верасьня 2001 г.*

# Дзяўчынка ці хлопчык?



**Ад чаго залежыць пол будучага дзіцяці? Вядома, што ўсё вырашаюць гены: калі 23-ю пару храмасомаў утвараюць дзьве храмасомы *X* — будзе дзяўчынка, калі ж *X* і *Y* — хлопчык. Адна *X*-храмасома ў нас заўсёды ад маці, ад бацькі ж мы атрымліваем *X* або *Y*. Таму дагэтуль лічылася, што менавіта бацька мае вырашальны ўплыў на пол дзіцяці. Аднак чаму ў такім разе адны бацькі маюць болей дачок, другія — сыноў?**

Было выяўлена шмат заканамернасьцяў, напрыклад:

— мужчыны з высокім грамадзкім статусам часьцей маюць сыноў;

— мужчыны, якія праз свае прафэсійныя абавязкі штодня падлягаюць небясьпецы і стрэсу (лётчыкі-выпрабавальнікі, вадалазы ці кіроўцы "Формулы-1"), часьцей маюць дачок;

— чым старэйшы бацька, тым большая імавернасьць нараджэньня дачкі;

— болей сыноў нараджаецца па вайне;

— калі ў нейкай супольнасьці няшмат жанчынаў — нараджаюцца дзяўчынкі;

— бацькі, што паляць цыгарэты, маюць на 10% большыя шанцы на нараджэньне дачкі, чым некурцы;

— жыхары паўднёвай Эўропы часьцей за скандынаваў маюць сыноў, але ў Паўночнай Амэрыцы тэндэнцыя адваротная: больш хлопчыкаў нараджаецца ў халоднай Канадзе, чым на цёплых паўднёвых ускраінах кантынэнту.

Ці можна гэтыя разнародныя назіраньні аб'яднаць у адну тэорыю? Якія прынцыпы выбару полу?

Робэрт Трайвэрз з Ратгерскага ўнівэрсытэту ў Нью-Джэрзі і Дэн Уілард з Гарварду лічаць, што эвалюцыя дбае пра тое, каб мы самі маглі ўплываць на пол нашых нашчадкаў. Прырода "прыдзяляе" бацькам такі пол дзіцяці, які забясьпечыць ім болей унукаў. У палігамным сьвеце жывёлаў самец можа мець дзяцей больш як з адной саміцай, пры ўмове што ён лепшы за сваіх супернікаў. Ён мусіць быць больш прывабны, дужы й здаровы. Калі ён можа мець такіх самых дзяцей, як сам, — добра, каб гэта былі сыны. З рознымі саміцамі яны забясьпечаць яму болей унукаў. Калі ж ягоная кандыцыя не такая добрая — хай будуць хоць бы дочкі. Такое адбываецца і ў людзей у манагамных супольнасьцях, лічаць вучоныя.

Аднак паводле якога прынцыпу адбываецца "наданьне полу" дзіцяці? Існуюць тры гіпотэзы. Першая: мужчыны "найвышэйшага гатунку" могуць прадукаваць больш спэрматазоідаў з Y-храмасомай, слабейшыя, у сваю чаргу, маюць больш спэрматазоідаў з X-храмасомай (фактычна, у спэрме мужчынаў, якія маюць выключна дачок, 70% спэрматазоідаў зь "дзявочымі" храмасомамі).

Другая гіпотэза: эмбрыёны аднаго полу часьцей падлягаюць выкіданьню. Трэцяя: менавіта арганізм маці вырашае, які спэрматазоід аплодніць яйцаклетку. Гэта можа залежаць ад моманту авуляцыйнага цыклу. Лічыцца, напрыклад, што на стадыі максімальнае апладняльнасьці перавага аддаецца спэрматазоідам з Y-храмасомай. Таму часты сэкс часьцей можа прывесьці да нараджэньня хлопчыка, бо апладненьне адбываецца раней. Гэтая гіпотэза тлумачыць "хлапечы бум" пасьля войнаў, калі мужыкі, што ссумаваліся па жонках, вяртаюцца дадому.

Валерыя Грант з Оклендзкага ўнівэрсытэту таксама мяркуе, што апошняе слова ў вызначэньні полу будучага дзіцяці належыць маці. Зь ейных дасьледаваньняў вынікае, што жанчыны, якія маюць рысы моцнай і дамінантнай асобы, часьцей нараджаюць хлопчыкаў. Ключом да разьвязаньня загадкі, лічыць Грант, мае быць тэстастэрон — палавы гармон, які адказвае за мужчынскія рысы характару, такія як агрэсія, прага суперніцтва і дамінаваньня. Грант дапускае, што кожная яйцаклетка загадзя прыстасаваная да прыняцьця спэрматазоіду з храмасомай X або Y, і вырашае гэта менавіта тэстастэрон, які ўтрымліваецца ў яечніках жанчыны. Калі яго болей за сярэднія паказьнікі, менавіта ён актывізуе яйцаклеткі, "настроеныя" на спэрматазоіды з Y-храмасомай. І наадварот, нізкі ўзровень утрыманьня тэстастэрону сьведчыць аб прыярытэтным становішчы спэрматазоіду з X-храмасомай.

Валерыя Грант дасьледавала асаблівасьці жанчынаў з дапамогай адмысловага тэсту. Жанчыны меліся пазначыць прыметнікі, што, на іх погляд, найлепш іх характарызуюць (напрыклад, гордая, незалежная, самотная, напалохаая). Сярод прыметнікаў было трынаццаць словаў, што азначаюць схільнасьць да дамінаваньня. Чым больш іх жанчына абярэ, тым большая ступень яе дамінантнасьці. У выніку экспэрымэнт сярэдні паказьнік аказаўся роўны тром. Досьледы Грант даводзяць, што жанчыны, якія дасягаюць выніку восем і болей, маюць ажно 80-працэнтны шанец нарадзіць хлопчыка. Тэст гэты даступны праз Інтэрнэт: www.sexratio.com.

Польскія антраполягі Багуслаў Паўлоўскі і Эльжбета Цепляк таксама схільныя лічыць, што пол дзіцяці залежыць найперш ад жанчыны, а дакладней, ад яе біялягічнай кандыцыі. Падставай для экспэрымэнту сталася вага пры нараджэньні першага дзіцяці. Чым большая вага, тым лепшыя ўмовы, у якіх плод разьвіваўся.

Жанчыны, якія нараджалі першых дзяцей, маючы вялікую масу цела, маюць большыя шанцы на тое, што іх другое дзіця будзе хлопчыкам. Ты здаровая — дык гадуй сыноў! — здавалася б, гаварыў сам арганізм жанчыны. Аднак навукоўцаў зьдзівіла, што гэтая залежнасьць была праўдзівай толькі тады, калі першым дзіцём... была дзяўчынка. "Праўдападобна, вага дзяўчынкі пры нараджэньні — найлепшая мерка агульнага стану маці, — дапускае доктар Паўлоўскі. — Хлопчыкі ў біялягічным сэнсе больш адчувальныя, і таму розныя нэгатыўныя чыньнікі, якія могуць зьявіцца падчас цяжарнасьці, стаюцца прычынай значнага паніжэньня вагі іхнага цела. Дастаткова, калі жанчына падчас цяжарнасьці будзе падлягаць стрэсу ці паліць цыгарэты. Дзяўчынкі ж больш "таўстаскурыя", і вонкавыя ўплывы менш уплываюць на іх вагу пры цяжарнасьці маці".

Вось жа, калі вы моцная, здаровая жанчына і замест таго, каб заплятаць косы сваім дочкам, вы прагнеце цыраваць падзёртыя на каленках сынавы нагавіцы — не хвалюйцеся: ваш арганізм ведае пра гэта. І, магчыма, для спэрматазоідаў зь "дзявочымі" іксамі ён паставіў знак забароны ўезду.

**Паводле *"New Scientist"***

# Гультайства сілкуе фантазію

**Дзяцінства буйных дзеячоў культуры і навукі часта праходзіла ў нібыта несур'ёзных гульнях ды гультайстве. Будучыя дызайнэры ды мадэльеры сьпелілі сваю неўтаймоўную фантазію апранаючы лялек, біёлягі гадзінамі назіралі за насельнікамі сажалкі, а славутыя вандроўнікі рабілі свае першыя караблі зь перакуленых крэслаў...**



Цяпер тысячы маленькіх вучняў пасьля тлумных гадзінаў у школе зазвычай бавяць рэшту дня ў студыях, гуртках ды сэкцыях. Бацькі, здаецца, папросту не выносяць выгляду дзіцяці, не занятага чым-небудзь карысным. Іначай, на іхную думку, дзіця зробіцца "цяжкім".

Тым часам беларускія пэдыятры наракаюць на шырока распаўсюджаныя ў малодшых клясах дзіцячыя нэўрозы ды ўжо хранічныя хваробы эндакрыннай сыстэмы, кровазвароту і страваваньня сярод старшых школьнікаў. Вынікамі дзіцячых перагрузак мэдыкі лічаць нэрвова-псыхічныя адхіленьні кшталту аслабленай памяці, нечаканых пераменаў настрою, раздражняльнасьці ды парушэньняў сну.

Псыхолягі заўважаюць, што людзі з "зарэглямэнтаваным" дзяцінствам вырастаюць бяз творчага пачатку і залішне патрабавальнымі. Пакінутыя без навязанай звонку волі, такія людзі няздольныя да самаарганізацыі. Вядомая ў Вялікабрытаніі дзіцячы псыхоляг Кэтлін Кокс кажа, што дзеці, якім не даводзіцца абапірацца ў жыцьці на ўласныя сілы, ня маюць стымулу для іх зьяўленьня і разьвіцьця. Ледзьве ў дзіцяці разгледзелі якія-колькек здольнасьці, яму не даюць кроку ступіць "бяз сэнсу". На думку Кэтлін Кокс, якраз у часе "бессэнсоўных тусовак" дзеці вучацца знаходзіць сабе занятак ды выбіраць тое, што ім падабаецца. Заарганізаваныя ж бацькамі дзеці, выдраўшыся зь сям'і на волю, у ВНУ ці ў шырокі сьвет, сутыкаюцца зь лішкам вольнага часу і губляюцца, бо ня ўмеюць належным чынам яго разьмеркаваць. Вынікам можа быць усё што заўгодна — ад няздольнасьці своечасова здаць пісьмовую працу да загулу на некалькі тыдняў.

Намаганьні бацькоў заняць вольны час дзяцей маюць лёзунгам "Хай у іх будзе ўсё тое, чаго мы, босыя і голыя, у дзяцінстве ня мелі". Бацькі проста апанаваныя жаданнем трымаць дзяцей у стане заўсёднага шчасьця. Ледзьве тыя пачынаюць плакаць, іх кідаюцца супакойваць і забаўляць, кормяць пры лёгкім голадзе, а пры першых прыкметах суму ім вынаходзяць новую форму дзейнасьці. "Але калі вас увесь час імкнуцца задаволіць, вы ніколі не атрымаеце сапраўднага задавальненьня, бо вам невядомае супрацьлеглае адчуваньне, — піша Кэтлін Кокс. — І тады вы прагягваеце адсоўваць мяжу далей, спрабуючы дасягнуць поўнага задавальненьня".

Тае самае думкі трымаецца і аўтар папулярнай цяпер на Захадзе кнігі "Ці слухаем мы сваіх дзяцей?" італьянскі сацыёляг Паола Крэпэ. Ён піша, што такое выхаваньне даводзіць дзяцей да стану эмацыйнай недасьведчанасьці. "Калі памёр дзядуля ці бабуля, вазьміце дзіця, нават малое, на пахаваньне. Невялікі боль — добры настаўнік", — раіць Крэпэ. Гэтаксама і сум падчас пэрыядычнай незанятасьці можа дапамагчы бацькам падрыхтаваць дзіця да сутыкненьня з высокімі патрабаваньнямі сучаснага сьвету.

"Калі вы ўвесь час адпавядаеце плянам, якія маюць на вас іншыя людзі, то кім вы ёсьць, калі застаяцеся на адзіноце?" — пытаецца Кэтлін Кокс. Паводле ейнае думкі, дзіця, якое ніколі не пакідаюць сам-насам з сабою, не навучыцца жыць самастойна.

**Міхал Чарвінскі**

# Памяць пра Аўласа

**Хутка мы адзначым 130-ю гадавіну з дня народзінаў Аляксандра Ўласава, першага рэдактара "Нашай Нівы". Тым ня менш, у ваколіцах Радашкавіч ды Мігаўкі, прынамсі ў суседніх Пяцюлях, яшчэ і сёньня памятаюць яго. От што, прыкладам, распавёў мне пра Аляксандра Ўласава Андрэй Гаранскі.**

"У Пяцюлях за польскім часам была паўшэхная школка. У гэтую школку бегалі і дзеці Ўласава — Алег і Дзіма. То Ўласава ў Пяцюлях бачылі ледзь ня кожнага дня. Цёплай парою дзеці самі хадзілі ў школу, а зімою ён іх падвозіў на санях. Пяцюлеўская школа была на другім канцы вёскі, то двойчы на дзень Аўлас мусіў ехаць праз вёску. Заходзіўся ён і ў нашу хатку, — распавядае спадар Андрэй. — Мой тата купляў у Аўласа зямлю. Было гэта дзесь у годзе 37-м. Тату майго звалі Юстын. У нас дзесь ацалеў плян і акт куплі Аўласавай зямлі.

Прыгадваю, аднаго разу Аўлас зайшоў да нас із сваімі дзецьмі. Яны былі мае аднагодкі. Аўлас прапанаваў нам падужацца. Тады гэтае дужаньне практыкавалася. Усчапіліся мы, падахвочаныя Аўласам, тузаемся, і Аўлас ля нас тупае. Яму хочацца, каб родныя сыны мяне завалілі. Але ўсё выходзіць інакш: верх бяру я, і Аўлас ~~дае мне~~ за гэта пяць злотых ды кажа сынам:

— Каб вы адужалі Андрэя, гэтыя пяць злотых былі б вашыя. А так іх мае пераможца. Ну, і каб не крыўдавалі на мяне, то вам мае пяць злотых на двох.

Аўлас быў чалавек грузны — кіляграмаў на сто дваццаць, ня менш. Меў ён і адпаведны апэтыт. Мог, казалі, за адзін раз цэлага індыка ўплесьці. Быў ён чалавек дасьведчаны і аўтарытэтны. Да яго хадзілі на розныя рады: і як лепей гаспадарку ладзіць, і як лепей даглядаць жывёлу, і якім насеньнем сеяць. А калі трэба якую заяву напісаць, то таксама ішлі да Аўласа. Ён ведаў у гэтым толк. Праз яго да нас усе навіны сьвету прыходзілі. Быў жа ён адною парою сэнатарам у Варшаве. Мігаўскія ды пяцюлёўскія гаспадары часта ў яго пыталіся: "Як там у вашым сэнаце?" Ён казаў: "Каб там што даказаць, кольле ў рукі трэба браць, ісьці ў калы, на калы... Без калоў там ніякае рады ня даць... Там жа адны Радзівілы ды Патоцкія — князі ды графы... З-за іх у тым сэнаце не прабіцца... Зь імі няпроста!.."

Андрэю Гаранскаму таксама згадалася, як яму, трынаццацігадоваму, давялося з Уласавым быць на сходзе ў верасьні 1939-га, неўзабаве пасьля прыходу саветаў. Сход той ладзіла радашкаўская часовая ўправа. Прамаўляў там і Аўлас. Ён вітаў прыход саветаў, прапанаваў далучыцца да Беларусі некаторыя землі Латвіі, заселеныя беларусамі. "Мяне гэта зацікавіла, — згадвае Андрэй. — Я перапытаўся ў свайго таты, ці гэта праўда. Тата пацьвердзіў: так, у Латвіі таксама жывуць нашы людзі... Пасьля Аўлас неяк нечакана зьнік зь Мігаўкі. За ім зьніклі і ягоныя дзеці... Зьнікла зь імі і жонка. Спакваля пачалі расьцягваць і ягоную маёмасьць, бібліятэку".

Неўзабаве Андрэй узьбіўся ў радашкаўскім магістрацэ на Аўласаў архіў. "Мне не было на чым пісаць. Нехта шапнуў: шмат розных папераў у магістрацкай кладоўцы. Дык я ў тую бакоўку. І праўда — там цэлыя горы розных папераў, кніг. Шмат было і фатаздымкаў. То я колькі зь іх падняў..."

Спадар Гаранскі зрабіў паўзу. Мне падумалася, што ён зараз скажа: "Хочаце паглядзець?!" Але пачуў я іншае: "Змарнаваліся за вайну тыя Аўласавы падабізны. Пераважна гэта былі гуртавыя здымкі з Аўласам. Тата казаў, што гэта Аўлас з настаўнікамі... Змарнаваліся Ўласавы здымкі... Ні за што ні пра што змарнавалі самога Аўласа. Навошта? За што? Для чаго?! Каму ён, шасьцідзесяцігадовы, замінаў?"




Марыя і Андрэй Гаранскія

Спадар Гаранскі на гэтым сьвеце пражыў ужо амаль восем дзясяткаў. Усяго за гэты век набачыўся. Але адказу на свае пытаньні пакуль не знайшоў. Аўлас быў цікавы і бяскрыўдны чалавек. Шчыра любіў Беларусь і хацеў, каб яна была паважаная і шанаваная на ўсім сьвеце. То хіба толькі за гэта?!

На думку Андрэя Гаранскага, вынішчэньне такіх людзей, як іхны Аўлас, абяскроўлівае край, народ, нацыю...

Жыцьцё Ўласава ў Мігаўцы моцна паўплывала на ўвесь тутэйшы люд. Тут усьвядомлена шанаваць родную мову, дзівяцца з урадоўцаў, якія ігнаруюць яе. Гэта ж калісь Уласаў казаў сваім землякам, народу, цэламу сьвету: "Усе, хто прывык шанаваць кожную нацыю і кожнага чалавека, ведаюць, што ў роднай мове сваёй беларус усё лепш разумее, што тая мова — гэта яго душа, сэрца, усё, што ёсьць самае блізкае і дарагое чалавеку. І беларусам, беручы культуру ад расейцаў і ад палякаў, няма ніякай патрэбы забываць, што яны беларусы, адракацца ад сваёй нацыі і перакідацца да чужой" ("Наша Ніва" ад 25 красавіка 1908 г.).

Старэйшыя Ўласавы землякі якраз і трымаюцца такога разуменьня роднай мовы. Яны жывуць і цешацца ў ёй, як рыбкі ў чыстай вадзіцы. І іншага ім ня трэба.

**Уладзімер Содаль**

# Гараскоп Уласава

**Мы зь Міколам Лавіцкім от ужо другі ці трэці год вандруем на роварах па ўласаўскіх мясьцінах, сустракаемся зь людзьмі, якія яшчэ памятаюць ці хіба чулі пра Ўласава. От і сёлета дамовіліся на ягоны дзень народзінаў зьехадзіцца ў Мігаўку. А калі хапіліся, дык і разгубіліся трохі: дата народзінаў у розных крыніцах розная. У даведніку "Беларускія пісьменьнікі" стаіць 16 (28) жніўня. А ў польскім пашпарце Ўласава, што перахоўваецца ў Літаратурным музэі Янкі Купалы, — 10 жніўня. Разыходжаньне нібыта нязначнае, але для гараскопаў істотнае. Калі дата народзінаў Уласава 10 (22) жніўня, ён трапляе пад знак Рака, а калі ж 16 (28) — дык ён Леў.**

Паводле розных характарыстыкаў сучасьнікаў Уласава, ён хутчэй нарадзіўся пад знакам Рака. От, прыкладам, як характарызавала Ўласава пляменьніца: "У ім неяк арганічна спалучаліся лянота, марудлівасьць і незвычайная энэргія, апантанасьць". Гараскоп кажа, што Ракі — людзі эмацыйныя, даверлівыя, адначасова апантаныя, марудлівыя, але неадступна ўпартыя.





Аўтар артыкула пра Ўласава ў даведніку "Беларускія пісьменьнікі" — Генадзь Кісялёў. Тэлефаную яму, кажу пра свае назіраньні. "Калі пісаўся артыкул пра Ўласава, я пра пашпарт нічога ня чуў... Карыстаўся якімісь даведнікамі. Паглядзіце, якія зьвесткі даюць пра дату народзінаў папярэднія крыніцы..."

Паглядзеў... "Беларуская савецкая энцыклапэдыя" 1974 г. наагул пра рэдактара "Нашай Нівы" ня згадвае. У гэтым даведніку шмат самых розных іншых Уласавых — партызанаў, воінаў...

Зазірнуў у купалаўскі даведнік. Там ёсьць невялікі артыкульчык пра Ўласава, але даты яго народзінаў няма, толькі гады жыцьця: 1874—1941.

Ня значыцца дата народзінаў Уласава і ў сьледчай справе. Застаецца толькі зазірнуць у найноўшыя энцыклапэдычныя даведнікі — "Беларускую мову", гістарычную энцыклапэдыю і "ЭЛіМБел".

Але расчаравалі мяне найноўшыя даведнікі. Прыкладам, энцыклапэдыя "Беларуская мова" не дала хоць якога артыкульчыка пра Ўласава. Пра "Нашу Ніву" дала, а пра ўклад яе апекуна ў станаўленьне літаратурнай мовы — ані слова.

Першай падала артыкул пра А.Уласава (1987 г.) энцыклапэдыя "Літаратура і мастацтва". Там значыцца дата народзінаў — 16 жніўня 1874. Гэтую дату паўтарыла і гістарычная энцыклапэдыя.

Тэлефаную зноў Генадзю Кісялёву. "Як бы яно там ні было, якія б зьвесткі ні давалі даведнікі, пашпартную дату трэба ўлічыць", — раіць слынны беларускі дасьледнік.

Улічваем! Тым больш што праз два гады — у 2004-м — Уласаву будзе 130. Нашай грамадзкасьці, нашаніўцам варта было б парупіцца неяк нарэшце ўшанаваць адну з самых выдатных асобаў мінулага стагодзьдзя. Хоць бы якой памяткай у Мігаўцы...

Што да мяне, дык я неяк сымбалічна прывязаў год народзінаў Уласава да скульптурнага фантану "Хлопчык зь лебедзем" ля Купалаўскага тэатру. На ім значыцца лічба — 1874. Якраз год народзінаў Уласава

**У.С.**

# календар

## 6 кастрычніка 1677

памёр Альбэрт Вайцех Каяловіч (Віюк-Каяловіч), езуіт, рэктар Віленскага ўнівэрсытэту.




Вучыўся ён у Нясьвіжы і Вільні. Выкладаў у Смаленску, пасьля вярнуўся ў Вільню, дзе прайшоў шлях ад выкладчыка да рэктара. Напісаў двухтомную "Гісторыю Літвы", гербоўнік шляхты ВКЛ "Намэнклятар", этнаграфічную працу "Мешаніна рэчаў", дзе распавёў пра мястэчкі і гарады Вялікага Княства, гісторыю, побыт і заняткі людзей.

## 10 кастрычніка 1577

"Магілёў, Мазыр і Ула атрымалі Магдэбурскае права — на два стагодзьдзі пазьней за Вільню і Берасьце (1387, 1390) і на стагодзьдзе пазьней за Менск (1499).

## 12 кастрычніка 1952

у Нью-Ёрку беларускія эмігранты паставілі "Паўлінку" Купалы. Тэатар мог стаць прафэсійным, аднак памерла маладая зорачка Натальля Куліковіч-Кушаль, зьехалі зарабляць на жыцьцё на радыё "Вызваленьне" ў Мюнхен Галіна Ганчарэнка і Барбара Вержбаловіч. Так і не стварыўся эміграцыйны тэатар.

## 20 кастрычніка 1677

нарадзіўся Станіслаў Ляшчынскі, кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1704—1709, 1733—1736 ). Ягоныя палітычныя посьпехі залежалі ад фартуны швэдзкага караля Карла XII. Падтрымаўшы яго, у 1704 г. Ляшчынскі зрабіўся каралём. Потым Карла разьбілі пад Палтавай, і Станіслаў мусіў вярнуць трон Аўгусту II. Другі раз Ляшчынскі пачаў змаганьне за пасад у 1733 г., калі Аўгуст Моцны памёр. Вайна цягнулася тры гады і скончылася для Ляшчынскага паразай. Ён зьехаў у Францыю, дзе атрымаў ад Людовіка XV у пажыцьцёвае валоданьне Лятарынгію. Ягоная дачка сталася каралевай Францыі, а сам Ляшчынскі памёр на 89-м годзе жыцьця. Старэнькі кароль грэў ногі ля каміна і, заснуўшы, згарэў.



## 25 кастрычніка 1902

быў асьвечаны менскі мячэт. Ён быў разбураны ў 1962 г. дзеля будаўніцтва гатэлю "Юбілейны".

## 29 кастрычніка 1952

у Полацку адкрыты пэдагагічны інстытут. Тады Полацак быў абласным цэнтрам.

**Алег Гардзіенка; *"Анахну Кан"***

**Чытаць бэлетрыстыку лёгка і цікава — інакш гэта не бэлетрыстыка. Пісаць "лёгкае чытво" цяжка, хоць і цікава. На інтэрнэт-форумах можна пабачыць грэблівыя выказваньні пад імёнамі вядомых у літаратурным сьвеце асобаў: "Дайце нам 300 даляраў, і ў вас будзе дэтэктыў. Найкруцейшы". Ня так проста гэта, спадарства.**

**Гэтым летам "НН" публікавала дэтэктыў Наталкі Бабінай "Пастка для крата". Ад самага пачатку відаць, што аўтарка не імкнулася стварыць тэкст паводле рэцэпту. Наталка Бабіна сьмела экспэрымэнтуе з канонамі дэтэктыву: пачатак і фінал нагадваюць баявік, некаторыя старонкі — жаночы раман, сьледзтва ледзь паказанае, асоба сышчыка амаль адсутная і г.д.**



# Першы блін

Галоўная гераіня Яніна выглядае прыхаднем у дэтэктыўным сьвеце, і гэта інтрыгуе. Бо экзатычны пэрсанаж у дэтэктыве неабходны, як соль у страве. Усе магчымыя і немагчымыя варыянты злачынстваў і іхнага раскрыцьця даўно прыдуманыя пісьменьнікамі, і элемэнт незвычайнага можна стварыць толькі з дапамогай экзатычных акалічнасьцяў ці пэрсанажаў.

Яніна распавядае сваю гісторыю фрагмэнтарна-самнамбулічна, з адхіленьнямі ад асноўнай тэмы, і гэтым розьніцца ад большасьці халодных і лягічных дэтэктыўных "апавядальнікаў". Гераіня мітусіцца перад намі, рашэньні прыходзяць да яе самі сабою і маюць адно інтуітыўнае абгрунтаваньне. Характарыстыкі іншых пэрсанажаў суб'ектыўныя й перанасычаныя дэталямі, якія не працуюць на асноўнае дзеяньне.

Пачатак твору дынамічны — на некалькіх першых старонках Яніна знаходзіць на лецішчы забітага, заўважае, што за ёю цікуюць, ды трапляе пад абстрэл у калідоры інстытуту. Перад кульмінацыяй дзеяньне зусім запавольваецца, пакідаючы чытача ў разгубленасьці.

Раптам мы дазнаёмся, што гераіня ледзьве ня зь першых імгненьняў ведала пра прысутнасьць на месцы злачынства суседа па лецішчы (ён, уцякаючы, абмінуў спаржу, якую дапамагаў саджаць), зноў жа раптам — у сьне — яна ўсьведамляе, што да забойства мае дачыненьне ейны каханак. Яніна сустракаецца з суседам, той пацьвярджае ейныя здагадкі, зьяўляецца каханак-забойца, але верныя сябры ратуюць...

У гэты момант зьяўляецца пачуцьцё расчараваньня, бо аўтарка адмовіла чытачу ў праве на вэрсію. Амаль усё, пра што мы дазналіся з папярэдніх старонак, выяўляецца малаістотным для высьвятленьня матываў злачынных дзеяньняў. Адразу прапануецца адказ на ўсе пытаньні і фінал-разьвязка ў стылі амэрыканскага баевіка. Але чытачня ведае плойму істотных фактаў і сустракае фінал абсалютна непадрыхтаваным. Таму шмат што ў аповесьці падаецца непераканаўчым.

Адрадзіўшы традыцыі Караткевіча, Наталка Бабіна надала дзеям і пэрсанажам беларускі калярыт, стварыўшы атмасфэру амаль рэальнасьці, і гэткім чынам элегантна вызвалілася ад абавязку трымацца рэалізму ў дэталях штодзённага жыцьця. Аўтарка здолела пазбавіцца ад усюдыпрысутнае ў айчынных дэтэктывах роднае міліцыі. Хоць і фігура прыватнага сышчыка — украінскага нацыяналіста Сьлёзкі — атрымалася нерэальная. Зрэшты, усе гэтыя Эркюлі Пуаро, Пэры Мэйсаны і Ніра Вульфы ня ўражваюць сваёй матэрыяльнасьцю. Сышчык-прыватнік пэрсаніфікуе Свабоду і Справядлівасьць. Вобраз міліцыянта можа ўвасобіць толькі апошнюю. Са справядлівасьцю ў Наталкі Бабінай ня надта атрымалася, пра што гаворка ніжэй, але крыху свабоды ў беларускую квазірэчаіснасьць яна дадала, імпартаваўшы яе з таямнічай Бандэраўшчыны.

Штучна выглядае мэтамарфоза, калі малады спэцслужбовец, у прыемнасьці якога гэтак старанна і шматслоўна пераконвае нас гераіня-апавядальніца, раптам выяўляецца злачынцам. Зрабіўшы гэтае адкрыцьцё, раптам разумееш, што Яніна нам нічога пра свайго Андрэя не расказала — псыхалягічнага партрэту зь ейных расповедаў не паўстае. А мы паверылі на слова. Між тым, вобраз Андрэя патэнцыйна вельмі цікавы: супрацоўнік спэцслужбаў, здольны хлопец зь небагатай сям'і, *self-made man*, меркаваны жаніх цікавай дзяўчыны і — як раптам выяўляецца — абсалютна пазбаўлены маральных рысаў чалавек. У аўтаркі была магчымасьць падаць нам вобраз Андрэя спачатку сьветлым бокам, потым падкінуць некалькі шматзначных дэталяў, пасьля адцягнуць увагу фальшывай вэрсіяй і потым выявіць сумную праўду.

Постаці выбаўцаў у фінале выглядаюць казачнымі пэрсанажамі. Функцыі сышчыка Сьлёзка выканаў бліскуча — і таямніча. Дастаткова яму было пабачыць Андрэя, і ён, асоба прыватная, арганізаваў сачэньне за ім. Але дзе ж мэтад спадара сышчыка — дзе абавязковая салодкая начынка дэтэктыўнага твора?

Яшчэ больш ад кульмінацыі ўражвае фінал. Гераіня пасьпешліва тлумачыць нам, што выкрытага забойцу-спэцслужбіста Сьлёзка завэрбаваў. Чаму б не паказаць сцэну вэрбоўкі — характар галоўнага адмоўнага пэрсанажа меў бы нагоду выявіцца ў стрэсавай сытуацыі? Змарнаваны апошні шанец зрабіць з сылюэту паўнавартасны вобраз.

Але самае сумнае пачынаецца далей. Яніна, якую выбавілі сумеснымі дзеяньнямі ўкраінец Сьлёзка, беларус Дуб ды два старыя антысавецкі, раптам безь ніякіх згрызотаў сумленьня зьяжджае ў Амэрыку! Зьяжджае, несучы ў сабе дзіця ад каханка-забойцы. Той застаецца ў Беларусі свабодны — ці амаль свабодны. Жанчына ж поўніцца радасьцю мацярынства ў заакіянскім парадызе... Між тым, у дэтэктыве істотна ня толькі развязваць загадку злачынства, але й задаволіць чытацкае пачуцьцё справядлівасьці.

Усьлед дэтэктыву можна зрабіць колькі высноваў. Выснова першая: "Пастка для крата" — удалы твор, бо, каб яго прачытаць, ня трэба змушаць сябе да чытаньня. Недахопы твору тлумачацца яго ным пінэрскім характарам. Нешаблённы выбар асобы апавядальніка, цікавая знаходка з кустамі спаржы, адраджэньне Караткевічавай традыцыі абеларушваньня будзённасьці, дынамічны дэбют захапляюць.

Выснова другая: дэтэктывы трэба пісаць, каб навучыцца іх пісаць.

Выснова трэцяя: вучыцца пісаць дэтэктывы варта. Кожны твор гэтага жанру — магчымасьць займальна прааналізаваць грамадзкія праблемы. Недарма Айзэк Азімаў пісаў: "Дэтэктыў — гэта сацыёляг, які дзейнічае". Наталка Бабіна стварыла выдатны малюнак менскага жыцьця, выявіла цікавыя сацыяльныя супярэчнасьці — і твор не згубіў займальнасьці. Адно слова — дэтэктыў. Усё залежыць ад таго, якім будзе працяг. Якасьць першага бліна заўсёды лепей вызначаць па наступных.

**Даніла Жукоўскі**

## дзе варта быць

### "Сёстры Псыхеі"

**25 кастрычніка Магілёўскі абласны драматычны тэатар прывозіць у Менск "Сёстраў Псыхеі" – прэм'ерны спэктакль паводле п'есы Сяргея Кавалёва.** Паставіў яго Алег Жугжда – рэжысэр, вядомы лялечнымі пастаноўкамі Шэксьпіравых шэдэўраў. "Сёстры Псыхеі" – адзін зь нешматлікіх беларускіх спэктакляў, які забаро[redacted] Купалаўскі тэатар, пачатак а 19-й. Квіткі – ад 2 да 4 тыс. рублёў.

### Выстава Тарасэвіча

**15 кастрычніка ў Музэі сучаснага мастацтва (пр.Скарыны, 47, ст.м. "Плошча Я.Коласа") адчынілася фотавыстава** "Лявон Тарасэвіч. Польскі павільён на 49-м біенале мастацтва ў Вэнэцыі". Адчыненая для наведнікаў штодня ад 11 да 19 гадзіны (акрамя нядзелі й панядзелка). Паглядзець яе можна будзе да 15 лістапада.

### Арт-гаўз у Менску

**24–27 кастрычніка ў менскіх кінатэатрах "Аўрора", "Берасьце", "Перамога" і "Мір" адбудзецца паказ фільмаў, якія звычайна называюць арт-гаўзнымі.** Калі аўтарскае кіно скіраванае на адмысловую адукаваную аўдыторыю, кіно масавае – на шараговага стандартызаванага гледача, дык кіно арт-гаўзнае імкнецца разбурыць гэтыя межы, яно імкнецца ўвасобіць аўтарскі погляд у зразумелай "шырокім масам" форме.

Фільм **"Госвардзкі парк"** – добрая карціна рэжысэра-клясыка Робэрта Олтмана з прадуманым акторскім ансамблем і моцным сюжэтам. За што і мае "Оскара". У Эўропе фільм атрымаў "Залатога мядзьведзя" Бэрлінскага фэстывалю й прыз Брытанскай кінаакадэміі за найлепшы фільм і найлепшую працу мастака па касьцюмах.

Улюбёнец эўрапейскіх кінатусовак Франсуа Азон прэзэнтуе менскаму гледачу лірычны рэтра-фільм **"Восем жанчынаў"**, у якім рэжысэр, невядома якім чынам, сабраў самых знакамітых францускіх акторак. Таленавіты, эпатажны, але халодны Азон, як заўжды, не стрымаўся ад гомасэксуальных намёкаў: пацалунак Фані Ардан і Катрын Дэнёў выглядае скандальна – у жыцьці яны "заклятыя сяброўкі" і да таго ж па чарзе былі каханкамі Франсуа Труфо, мэтра францускага кіно.

Тэма аднаполага каханьня не апошняя ў чацьвёрцы фільмаў. Так, у канадзкай стужцы **"Вас не дагоняць"** ідзецца пра трох сяброўак, якія вучацца ў шматабяцальна закрытым каледжы. Фільм атрымаў некалькі ўзнагародаў за апэратарскую працу.

А вось у швэдзкай камэдыі **"Давай! Давай!"** мілосныя прыгоды зьвязаныя з праблемай "Усход—Захад": ліванца Рора сваякі жадаюць ажаніць зь зямлячкай, а ён кахае швэдку (не пілу)... У 2001 г. швэдзкая кінаакадэмія прызнала "Давай! Давай!" найлепшым фільмам году.

Квіткі на гэтыя фільмы ва ўсіх кінатэатрах каштуюць 3 тыс. рублёў. Абанэмэнт – 8 тыс.

### Кніга Надзеі Дземідовіч

**На прэзэнтацыю кнігі ўспамінаў Надзеі Дземідовіч "Век так ня будзе" запрашаюцца ўсе ахвотныя.** 18 кастрычніка, Управа БНФ (вул.Варвашэні, 8), а 12-й.

### Дзьве прэзэнтацыі

**1 лістапада ў парк-клюбе "Менск" (ст.м."Парк Чэлюскінцаў") Аляксандар Памідораў прэзэнтуе свой альбом "Сьвята пакрадзенае".** Удзел бяруць таксама гурты "Зэт" і *"Куклы"*. А 6 лістапада тамсама адбудзецца чарговая прэзэнтацыя застольнага альбому "Крамбамбуля". Пачатак а 19-й. Квіткі на абедзьве імпрэзы каштуюць 5500 (танцпол), 7000 (за столікам). Даведкі праз т. (8-0296) 49-08-88, пэйдж. 211-85-85, аб.БМА

**Мікола Кісель, Андрэй Расінскі**

Імрэ Кертэс

# Страчаны лёс

## *Фрагмэнты з кнігі*



**18 сяброў камітэту Швэдзкай акадэміі ў сваім выбары кіруюцца ня толькі літаратурнымі вартасьцямі твораў. Улічваецца мноства іншых фактараў: паліткарэктнасьць, палітычнае становішча ў сьвеце, геаграфічны, полавы і палітычны плюралізм. Сярод сёлетніх прэтэндэнтаў на прэмію (1,1 млн. даляраў) называлі амэрыканца Джона Эшбэры, пэруанца Марыя Варгаса Льёсу, вугорца Імрэ Кертэса, сырыйскага паэта Адоніса. Многія пісьменьнікі фігуруюць у сьпісе верагодных набэліянтаў гадамі — наш Васіль Быкаў, амэрыканцы Томас Пінчан, Джон Апдайк, Філіп Рот, англічанка Дорыс Лесынг, канадкі Маргарэт Этвуд і Эліс Мунро, латышка Візма Бэлшэвіца, эстонец Яан Крос, швэд Томас Транстрэмэр, чэх Мілан Кундэра... Самае скандальнае імя ў гэтым сьпісе — Салман Рушдзі.**

**У самой Швэцыі Нобэлеўская прэмія — зьява культавая. Шмат хто з кнігалюбаў складае асабістыя бібліятэкі толькі з твораў набэліянтаў. Некаторыя кнігарні з такой нагоды выстаўляюць у гандлёвых залях тэлевізары, каб наведнікі маглі паглядзець трансьляцыю з Швэдзкай акадэміі. Шмат у якіх кнігарнях напярэдадні абвяшчэньня ляўрэата былі падрыхтаваныя плякаты "Тут прадаюцца кнігі нобэлеўскага ляўрэата-2002". Заставалася толькі дапісаць імя.**

**Шмат хто з крытыкаў лічыў, што палітычная сытуацыя на Блізкім Усходзе змусіць Нобэлеўскі камітэт прысудзіць узнагароду пісьменьніку з гэтага рэгіёну. Але яе ўпершыню ў гісторыі атрымаў прадстаўнік вугорскай літаратуры Імрэ Кертэс — выхадзец з будапэшцкай габрэйскай сям'і, вязень Асьвенцыму і Бухенвальду ў 1944—45 г., аўтар раманаў "Сьледапыт", "Ангельскі сьцяг", зборнікаў эсэ. На падставе канцлягерных успамінаў ён у 1975 г. напісаў кнігу "Страчаны лёс", перакладзеную на 15 моваў. 15-гадовы герой Кертэса не асуджае жорсткі сьвет — ён адно спрабуе ў ім выжыць. "НН" прапануе чытачам урыўкі з тае кнігі.**

*Паступова выявілася, што той комін насамрэч быў зусім ня фабрыка, а ўсяго "крэматорый"*

...Я б сказаў, што напачатку пачуваўся госьцем у той няволі — гэта было цалкам зразумела і вынікала, па сутнасьці, з таго, што ўсе мы, увесь род людзкі, любім цешыцца з ілюзіяў. Панадворак — выпалены сонцам пляц — здаваўся пуставатым: нідзе ані сьледу гумнаў, гародаў, траўнікаў або кветнікаў. Тут стаяў адно просты, падобны да вялікай стадолы драўляны будынак, нашае жытло. Знаходзіцца ўсярэдзіне можна было хіба ў часе начнога адпачынку. Перад будынінай і за ёй — доўгі, бязьмежны шэраг падобных стадолаў, зь левага боку — дакладна такія самыя, збудаваныя праз аднолькавыя прамежкі; яны паўсюль: сьпераду, ззаду, з бакоў. За імі — тая шырокая, асьветленая шаша, а мо й нейкая іншая — ня ведаю як астатнія, але я, ідучы з лазьні, страціў ужо арыентацыю і ня мог ідэнтыфікаваць дарогі, пляцы ды асобныя будынкі на гэтым вялізным пляскатым абшары. Там, дзе гэтая дарога, відаць, сустракалася з папярочнай, што бегла сярод стадолаў, праход перакрываў вельмі прыгожы, нібы цацачны, чырвона-белы шлягбаўм.

З правага боку была добра ўжо мне вядомая агароджа з калючага дроту, як я са зьдзіўленьнем даведаўся, пад напружаньнем, і, натуральна, толькі тады я заўважыў на бэтонных слупах шматлікія парцалянавыя ізалятары, якія бачыў дома на электрычных і тэлеграфных слупах. Нас запэўнівалі, што ўдар токам — сьмяротны. Дый досыць было толькі ступіць на дробны пясочак вузкай сьцяжынкі каля агароджы, і цябе з ~~вартавой вежы~~ (мне яе паказалі; гэта было якраз тое, што ад станцыі мне падалося паляўнічым памостам) бяз словаў, без папярэджаньня застрэляць, паўтаралі з усіх бакоў, строячы зь сябе адзін перад адным дасьведчаных важнікаў. Неўзабаве з гучным зьвяганьнем зьявіліся добраахвотнікі, што згіналіся пад цяжарам катлоў колеру чырвонае цэглы. Загадзя пранеслася пагалоска, якую адразу ж падхапіў, пачаў абгаворваць і паўтараць увесь панадворак: зараз прынясуць гарачы суп! Што тут казаць, я таксама падумаў, што ўжо самы час, аднак тое зьзяньне на тварах, тая ўдзячнасьць, тая асаблівая, амаль дзіцячая радасьць, зь якой пераказвалі гэтую вестку, мяне крыху зьдзівіла: падалося, што радасьць і ўдзячнасьць адносіліся ня стольківі да супу, колькі да самога дбаньня пра нас: маўляў, нарэшце, пасьля стольків неспадзяванак... Здаецца, інфармацыя зыходзіла ад таго мужчыны, таго вязьня, які адразу падаўся нам верхаводам, каб не сказаць — гаспадаром. Ён насіў падагнаную пад свой памер робу, у яго былі ўжо зусім нязвыклыя ў маіх вачах валасы, на іх барэт з грубага гранатавага сукна, на нагах прыгожыя жоўтыя пантофлі; чырвоная павязка на руцэ сьведчыла пра ягоную ўладу... Таксама ў яго на грудзях быў чырвоны трохкутнік — і гэта ўсім адразу паказвала, што ён тут знаходзіўся не з прычыны крыві, а толькі праз свае погляды.

...Суп наліваў ён сам, дзіўнаватым чарпаком, што меў хутчэй форму палівачкі, з доўгімі тронкамі, двое іншых — відаць, памочнікі — раздавалі чырвоныя эмаляваныя міскі й паабціраныя лыжкі — адну на двух, бо, маўляў, іх дужа мала, і таму, паеўшы — сказалі яны — мы адразу ж мусім усё вярнуць. Празь нейкі час надышла мая чарга. Суп, лыжку і міску я атрымаў на пару з Калетнікам — я гэтым ня надта быў задаволены, бо ніколі й ні з кім ня еў з аднае талеркі і адной лыжкай, але патрэба часам можа змушаць чалавека да ўсякага. Найперш ён зьеў адну лыжку і адразу ж аддаў мне цэлую міску. У яго на твары зьявілася трохі дзіўная міна. Я спытаў у яго, як суп, і ён сказаў, каб я пакаштаваў сам. Аднак я ўжо ўбачыў, што мужыкі навокал пазіраюць адзін на аднаго, некаторыя зьбянтэжана, іншыя пырскаючы ад сьмеху. І ўсё ж я пакаштаваў. І адразу ж зразумеў, што ён, на жаль, нejадомы. Я спытаў у Калетніка, што нам рабіць, і ён адказаў, што я спакойна магу ўсё выліць, ён не пакрыўдзіцца. У той самы час ззаду азваўся спакойны голас: "Гэта так званы *Dorgemüse*". Я ўбачыў каржакаватага, ужо немаладога мужчыну: пад носам бялейшая палоска — сьлед сьветлае памяці вусоў, твар азораны ведамі. Вакол нас стаяла колькі чалавек з кіслымі мінамі, сьціскаючы ў руках міскі і лыжкі, і ён распавядаў ім, што на першай сусьветнай быў афіцэрам і тады ў яго было досыць нагодаў, каб пазнаёміцца з гэтым супам, менавіта на фронце, сярод нямецкіх жаўнераў, "якія тады былі нашымі хаўрусьнікамі". Ён паведаміў, што гэта ня што іншае, як "сушаная гародніна". Для вугорскага страўніка, дадаў ён зь нейкай лагоднай, паблажлівай усьмешкай, ясная рэч, гэта крыху нязвыкла. Аднак ён цьвердзіў, што да гэтага можна і нават, як ён мяркуе, трэба прызвычаіцца, бо гэты суп утрымлівае багата "пажыўных рэчываў і вітамінаў", што забясьпечваецца дзякуючы адмысловаму спосабу сушэньня гародніны, а таксама нямецкай дасьведчанасьці ў гэтым пытаньні. "Зрэшты, — заўважыў ён зь нязьменнай усьмешкай, — першы наказ добрага жаўнера — трэба есьці ўсё, што даюць сёньня, бо невядома, ці дадуць заўтра", — так ён сказаў. А тады сапраўды зьеў сваю порцыю, спакойна, разважна, без адзінай грымасы, да апошняе кроплі. Я, тым ня менш, свой суп выліў пад сьцяною бараку, гэтаксама, як некаторыя дарослыя і дзецюкі. Я зьбянтэжыўся, бо здаля адчуў на сабе погляд нашага верхаводы, і спалохаўся, ці не ўгнявіў яго, але, здаецца, на ягоным твары я бачыў усё тую ж дзіўную, неакрэсьленую ўсьмешку. Я аднёс посуд і атрымаў наўзамен вялікую лусту хлеба, а на ім — нейкую белую масу ў форме прызмы, нібыта дзіцячы кубік і прыблізна такога самага памеру; масла? Не, кажуць мне, маргарын. Гэта ўжо я зьеў, хоць раней і ня бачыў такога хлеба: у форме куба, зьверху і зьсярэдзіны нібы з чорнае гразі, з кавалкамі саломы й нязмолатым зернем, што хрупала на зубах, але гэта быў хлеб, а я дарэшты быў згаладнелы пасьля той доўгай дарогі. Маргарын, не адшукаўшы лепшага спосабу, я размазаў пальцам, як Рабінзон дый усе іншыя навокал. Потым я пашукаў вачыма вады, але выявілася, што запіць няма чым. Ну, узлаваўся я, ізноў нас будзе мучыць смага, як у цягніку.

Цяпер варта крыху падрабязьней распавесьці пра пах, што стаяў у паветры. Ад яго, саладжавага й нібы клейкага, з дамешкам знаёмага ўжо хімічнага сродку, цягнула на ваніты, і я ўжо пабойваўся, ці ня выблюю хвілю таму зьедзены хлеб. Я бязь цяжкасьцяў зразумеў: вінаваты быў комін зьлева ад шашы. Мы адразу разважылі, што гэта комін фабрычны, і людзі сапраўды даведаліся ад нашага вязьня, што там знаходзіцца фабрыка скураных вырабаў, як, зрэшты, шмат хто і меркаваў. Я згадаў: калі часам у нядзелю мы з бацькам выбіраліся на футбол і трамвай праяжджаў міма такой фабрыкі, я заўжды мусіў затыкаць нос. Зрэшты, казалі нам, мы, на шчасьце, ня будзем працаваць на той фабрыцы, калі толькі ня выбухне тыф, крываўка ці іншая пошасьць... Калі ўсё пойдзе добра, мы рушым далей, у іншае, лепшае месца. Менавіта таму мы ня носім пакуль на робе, а тым болей на скуры нумароў, як наш верхавода, "блёчны", як яго называлі. Такі нумар шмат хто ўжо бачыў на ўласныя вочы: сьветла-зялёным атрамантам ён пішацца на руцэ, потым наколваецца голкай, і яго ўжо ня змыеш; гэта завецца татуяваньне. Прыблізна тады ж да маіх вушэй дайшло апавяданьне добраахвотніка, які прынёс суп. Ён таксама бачыў у кухні нумары на руках у людзей, якія былі тут даўжэй. А асабліва ўсе пераказвалі й шукалі сэнсу ў адказе, які адзін зь вязьняў кінуў некаму з нас на пытаньне, што гэта. *Himmlische Telephonnummer*, нумар тэлефону нябёсаў — здаецца, так ён сказаў.

...Паступова выявілася, што той комін насамрэч быў зусім ня фабрыка, а ўсяго "крэматорый", то бок печ для спальваньня, як нам патлумачылі значэньне гэтага слова. Я прыглядзеўся да яго лепей: прысадзісты, кантовы, ён завяршаўся вянцом з шырокім вусьцем. Мушу сказаць, што апроч страхавітай павагі, ну й акрамя паху, вядома, які нас абляпляў нечым густым, накшталт гразі, нічога іншага я не адчуваў. І тут мы з новым зьдзіўленьнем адкрылі наводдаль яшчэ комін, за ім другі і ўжо на ўскрайку бліскучага неба яшчэ адзін; два зь іх, падобна да нашага, плявалі дымам, і, магчыма, мелі рацыю тыя, хто падазрона паглядаў на хмары куродыму, што ўздымаліся з-за далёкага рахітычнага пералеску. Відаць, цалкам слушна прыйшло ім да галавы: што ж гэта за пошасьць такая, ад якой тут столькі нябожчыкаў?

Мушу сказаць, што, перш чым спусьціўся вечар першага дня, амаль усё сталася мне збольшага ясна. Датуль мы пабывалі таксама ў бараку з клязэтамі — памяшканьні, якое складалася нібы з трох масткоў, што цягнуліся праз усю яго даўжыню, і ў кожным зь іх было па два, гэта значыць разам шэсьць радоў адтулінаў — можна было над імі пасесьці або ў іх цаляць, як каму зручней. Надта шмат часу, у кожным разе, на гэта ў нас не было, бо неўзабаве зьявіўся нейкі шалёны вязень, гэтым разам з чорнай павязкай і цяжкім друком у руцэ, і кожны мусіў выйсьці, як быў. Сноўдала там яшчэ колькі іншых старых вязьняў: тыя былі ўжо лагаднейшыя і ахвотныя да тлумачэньняў. І туды, і назад мы ішлі ніштаватай дарогай, у суправаджэньні блёчнага, і гэтая дарога вяла міма цікавага месца: за дротам стаялі стадолы, перад імі — дзіўныя кабеты (ад аднае зь іх я адразу ж адвёў позірк, бо з-пад ейнай расшпіленай блюзкі зьвесілася нешта, да чаго сутаргава прыпала лысае немаўля з блішчастым на сонцы чэрапам) і яшчэ больш дзіўныя мужчыны, змарнелыя, аднак апранутыя як вольныя людзі. На зваротнай дарозе я ўжо ведаў: гэта быў лягер для цыганоў. Я нават крыху зьдзівіўся: дома практычна ўсе, і я таксама, не лічылі цыганоў надта сумленнымі, але датуль я ніколі яшчэ ня чуў, каб і яны былі злачынцамі. У той момант на тэрыторыю іхнага лягеру заехаў воз, які цягнулі малыя дзеці са збруяй на плячах, нібы поні, побач зь імі крочыў мужчына зь вялікімі вусамі і пугай у руках. Груз быў прыкрыты гунькамі, але праз шчыліны, празь дзіравыя шматкі відаць быў з усёй пэўнасьцю хлеб, боханы белага хлеба; з гэтага я зрабіў выснову, што цыганы стаяць на ступень вышэй за нас.

**Пераклаў Сяргей Сматрычэнка**

# Дзёньнік футбаліста

фэльетон


IREX-PROMEDIA

**3 студзеня.** Зь цяжкасьцю выйшлі з адпачынку пасьля леташняга чэмпіёнства. Мой "Пратэктар" чакае цяжкі сэзон: кубак Садружнасьці, чэмпіянат, Ліга Чэмпіёнаў... Нашто толькі выйгравалі?

**20 студзеня.** Прадулі на Садружнасьці ўсім, нават кіргізам. Я і ня ведаў, што там у футбол гуляюць. Але ў нас ёсьць жалезная адмазка: мы толькі пачалі трэніравацца...

**1 лютага.** Кіраўніцтва каманды абвесьціла, што на зборы паедзем у Турцыю, а заробак за сьнежань атрымаем у траўні. Файна.

**18 сакавіка.** Трэніраваўся ў двары зь дзецьмі. Адпрацаваў да аўтаматызму ўдар ззаду па нагах.

**2 красавіка.** Ну вось і панеслася! На двары — плюс дваццаць, сонейка! Падчас гульні заглядзеўся на аблачынкі, рамантызм зь мяне так і папёр. Мой настрой міжволі перадаўся ўсёй камандзе, і ў выніку прайгралі — 0:8, прапусьціўшы на апошніх хвілінах два галы. А маглі сысьці з гонарам — 0:6.

**8 красавіка.** Трэнэр кажа, што мне варта скінуць пятнаццаць кіляў. Ага, схуднееш тут, седзячы на лаўцы запасных: усё піва ды чыпсы.

**14 красавіка.** Езьдзілі ў Гомель. У аўтобусе гулялі ў дурня. Я прайграў форму і на поле ня выйшаў.

**20 красавіка.** Учора згулялі ўнічыю зь лідэрамі — 2:2. Я забіў чатыры галы.

**10 траўня.** Цікава, а адкуль брамнік ведае, у які кут я буду біць? Мо ён тэлепат?

**18 траўня.** Тэлефанаваў мне Ламафееў, папрасіў паклікаць да тэлефона Двупейкіса. Памятаюць пра мяне трэнэры зборнай!

**29 траўня.** Адпрацоўвалі на трэніроўцы затрымкі рукамі, удары локцем. А па нагах я магу біць увогуле зь любога становішча: зь лёту, ззаду, у падзеньні.

**6 чэрвеня.** Цешча папрасіла з поля прынесьці дзірвану для саду. Я нарэзаў, пакуль нашы гулялі. А цесьць во лаву на лецішча прасіў. Дадумаўся — на чым я падчас гульні сядзець буду?!

**14 чэрвеня.** Усухую прайгралі выязную гульню. Проста мы да старту ў Лізе Чэмпіёнаў рыхтуемся, нам не да таго, а яны, дурні, падумалі, што насамрэч у нас выйгралі.

**20 чэрвеня.** Зноў прыйшло запрашэньне з мадрыдзкага "Рэалу". Выкінуў у сьметніцу. Надакучылі гэтыя масажыставы жарты.

**22 чэрвеня.** Зрабіў на назе наколку: "ГВАМ!", што азначае "Гол варатару ад мяча!" Супэр!

**8 жніўня.** Вылецелі з кваліфікацыі Лігі Чэмпіёнаў. Яўна не пашэнціла. Дома 1:4, і ў гасьцёх 1:4. Містыка нейкая!

**23 жніўня.** Падчас гульні трэнэр бегаў па броўцы, нешта крычаў, рабіў страшныя грымасы. Усе сьмяяліся і, вядома, з-за гэтага прайгралі.

**5 верасьня.** Учора на перадгульнявой трэнэрскай установцы заснуў і не пачуў заданьня на гульню. Выйшаў на поле, а што рабіць — ня ведаю. А заданьне было — сядзець у распраналцы і сьцерагчы рэчы. У выніку мяне ж і абчысьцілі.

**10 верасьня.** У другім тайме зрабіў зацяжку на гетрах! Так ніякіх гетраў не напасешся!

**20 верасьня.** У часе апошняй гульні выкладаўся напоўніцу — шмат бегаў... Раптам мяч трапіў у нагу! Качаўся ад болю пяць хвілінаў. Цяпер на трэніроўку ня выйду, пакуль бульбы ня выкапаю на лецішчы.

**29 верасьня.** Вярнуўся Талян з Штутгарту. Яму там мэніск апэравалі. Кажа — адпачыў шыкоўна. А ў мяне за ўсё жыцьцё ніводнай сур'ёзнай траўмы! Крыўдна! Хоць бы гемарой які на лаўцы наседзець!

**4 красавіка.** Судзьдзя сёньня дадаў да асноўнага часу восем хвілінаў! Я адпрасіўся раней, па тэлеку Ліга Чэмпіёнаў, я ж не магу прапускаць такое. А хто футболу ня любіць, хай хоць да раніцы бегае.

**20 красавіка.** Не заплацілі за трансфэр нашага новенькага. З нас за гэта зьнялі тры балы. А і халера за зь імі! Усё адно ў гэтым чэмпіянаце нам лавіць няма чаго, можна пакрыху здаваць гульні, за леташнія пазыкі разьлічвацца.

**28 красавіка.** Пагаварыў з трэнэрам. Хрaновае ў яго жыцьцё! Ня буду больш яму зайздросьціць.

**6 лістапада.** Ну вось і скончыўся сэзон. І крыху сумна стала. Два месяцы я ня ўбачу свайго скуранога сябра, не пхіну яго шыпамі ў пружыністы бок... Але будзе вясна, новыя надзеі, новыя задачы... Мо заробак за жнівень аддадуць?

**А.Шыдлоўскі and Pinchik**



## Сабачыя гісторыі

**У аднаго сабакі слаба грэлі** батарэі. Граждан, даведаўшыся, параіў: "А ты часьцей самагонку гані!"

**Адзін сабака працаваў** начальнікам ЖЭСу. Штодня да яго заходзіўся Граждан і прапанoўваў: "Давай разам закалачваць бабкі. Я пры камуністах быў контрразьведчыкам..."

**Адзін сабака пераехаў** у новую кватэру. Зазірнуў у прыбіральню — а там Граждан ва ўнітазе рыбу ловіць.

**Адзін сабака прыйшоў** у домакіраўніцтва і пацікавіўся, калі пачнецца ацяпляльны сэзон. Граждан яму адказаў: "Калі захочам, тады і пачнём!"

**Адзін сабака паскардзіўся** на вадаправодчыка. Назаўтра прыйшоў Граждан і адключыў сабаку газ.

**У аднаго сабакі адключылі** цёплую ваду, і ён грэў яе на пліце. А Граждан хадзіў на працу з тэрмасам і насіў адтуль ваду дахаты.

**Адзін сабака прачнуўся** ад холаду, бо адключылі ацяпленьне. Ён пайшоў у кухню і запарыў гарбаты. А Граждан глынуў адэкалёну "Саша" і выбег на вуліцу, каб даведацца, дзе амэрыканцы разбамбілі цеплатрасу.

**Адзін сабака ня мог** заснуць, бо пад вокнамі па начах экскаватар капаў яму, каб знайсьці старыя трубы і паменяць на новыя. У кабіне сядзеў другі Сабака і напяваў: "Увязу цябя я ў тундру, увязу к сядым сьнягам...".

**В.Ш.**



## прыватныя абвесткі

### азбука

**Можна набыць** выдатную беларускую каляровую азбуку з малюнкамі, друкаванымі і прапіснымі літарамі, фармату А3. зь вершыкамі на кожную літару. Т.: 288-68-91, пасьля 21 00. Ігар і Ганна

### вітаньні

**Асабістыя віншаваньні** Уладзімеру Буйку! Такога чалавека, як Вы, даўно ня ведала Беларусь! Архіпаў Ягор

**Прывітаньне** былому 9 "Б", а таксама яго кляснаму кіраўніку. Жыве Беларусь! ПІТ

**Усім 9-клясьнікам** "ЛГ" гарачае прывітаньне. Жывіце без праблемаў. Стась

**Шаноўныя акторы** тэатру "Відарыс"! Віншую Вас з адкрыцьцём новага сэзону. Архіпаў Ягор

**Шчасьця** Вам усім, здароўя, новых творчых посьпехаў! Архіпаў Ягор

### "Загародзьдзе"

**Паседжаньне Заходнепалескага** навуковага таварыства "Загародзьдзе" адбудзецца 17 кастрычніка а 18 30 у Беларускім інстытуце праблемаў культуры (вул.Каліноўскага, 12). Выступоўца — Юры Чарнякевіч. Тэма — "Хлеб і лён у сьветапоглядзе палешукоў"

### кантакты

**Ці ёсьць** у Беларусі пасьлядоўнікі руху *"New Age"*? Звышчалавек

**Дахрысьціянская традыцыя**, Балцкая Тэма, Нацыянальная Ідэя, кансэрватыўная Рэвалюцыя. www.gegaruch.org

**Запрашаем да гуртаваньня** сур'ёзных маладых людзей, цікаўных да паганскага сьветагляду й нацыянальнае ідэалёгіі. GEGA Ruch. a/c 342, Менск, 220050

**Шаноўныя сябры БНФ** "Адраджэньне", давайце ахвяраваць унёскі грашовыя, бо страцім сядзібу Сяброўка

**Хто жадае** пазнаёміцца з прэзыдэнтам, пішыце: aleso@yandex.ru

**А ці ёсьць** у нас часопіс (агульнабеларускі) для тынэйджэраў? Сіһ

### кнігі, музыка

**Вялікі архіў** беларускай музыкі — ад клясыкі да сучаснасьці. Запіс: на маю плыту 2000. на вашу 1500 руб Гуртам зьніжкі. Т.: 258-43-54.

**Прадаю падшыўку** газэты "Наша Ніва": 1998—2001 г. — усе нумары; 2002 г. — №1—37. Маюцца асобныя нумары за 1991—95 г. Т.: 258-43-54.

**Прадам старыя нумары** "Нашай Нівы" за 1992—94, 1997—2000 г. Т.: (213) 43-4-56

**Асобныя нумары** непадцэнзурных выданьняў 1989—90 г. прадам. Т.: (213) 43-4-56

**Застольны альбом** "Крамбамбуля" (на CD, аўдыё) ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51. E-mail: bandrej@tut.by

**Сучасныя беларускія часопісы** і кнігі на любы густ. Замаўляйце і чытайце! Алег. А/с 714, 222120, Барысаў-1

**Прадаю** "Творы М.Багдановіча" (1928, у 2 т.). Цана 40 у.а. Т.: 227-72-26. Віктар

**Куплю кніжку В.Фадзеевай** "Беларуская народная вышыўка". а/с 72, 230026, Горадня-26. Пэйдж.: (0152) 78-48-48, аб.12576

### паслугі

**Гішпанская мова**: рэпэтытарства, пераклады etc. (студэнты Лінгвістычнага Ўнівэрсытэту). Т.: (0296) 27-89-98, Багдан

**Дапамога ў выбары** і набыцьці кампутара па гуртавых коштах. Танна і супэртанна! Т.: (0296) 20-59-90.

**Прадам піяніна** *"Neumeyer"*. Пружаны. Т: (01632) 21-4-70

**Прадам купоны** бясплатных абвестак "НН". Т.: 265-75-73

### тэлефон

**Сотавыя тэлефоны** "Сымэнс", "Панасонік", 'Соні' і інш. прадаю. Т.: (0296) 20-59-90

### праца

**Вазьму на карэктуру** тэксты (наркамаўка, тарашкевіца, лацінка). Магчымы пераклад з расейскай на беларускую. З аплатай паразумеемся. Т.: 265-75-73

**Шукаю працу** наборшчыка тэкстаў. Беларускія (лацінка/кірыліца/саўнаркамаўка), рас., ням., анг. Т.: 248-21-58. Артур, 20.00—22.00

**Запрашаюцца выдаўцы**. зацікаўленыя ў распаўсюдзе сваёй прадукцыі ў Гомелі. E-mail: bandrej@tut.by

## паштовая скрынка

**Лідзе А. зь Менску.** Гэта пытаньне галоўнага і другаснага. Пішыце пра палітыку, герояў нашага часу, неардынарныя гісторыі, інтрыгоўныя злачынствы. Не тапчыцеся ў загоне культурных падзеяў мясцовага маштабу, а тым больш ня стаўце знаку роўнасьці між імі і Беларусяй.

**Віктару Л. зь Менску.** Дзякуй за кнігу.

**Міколу С. зь Вялейкі.** Правілам тарашкевіцы ("дарэформеннай беларускай мовы", як Вы яе завяце) можна навучыцца, адшукаўшы часопіс "Спадчына" №5 за 1995 г. з артыкулам Вінцука Вячоркі "Правапіс. Спроба сучаснае нармалізацыі" (с.247—288). Накомт набыцьця кніжак — затэлефануйце ці пішыце на нумар, пазначаны пад рубрыкай "НН" "Кнігі — поштай". З "БМА-*group*" можна зьвязацца па тэлефоне 227-51-09 або (0296) 49-08-88 (Віталь).

**Вячку В. зь Менску.** "А сам аўтар чаму не пафарбаваў і не памыў?" — запытаецца чытач.

**Сяргею Б. з Гомелю.** Тэкст пра касьмічныя падарожжы перадалі на разгляд у рэдакцыю часопісу "ARCHE". Не газэтная рэч — заскладаная, перагружаная прыдуманымі ды "падтасаванымі" фактамі, багацьце якіх прымушае чытача дзівіцца з аўтарскае фантазіі, але сьмеху не выклікае. Бракуе простага дасьціпнага гумару.



**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**On-line: www.nn.by**



8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас. г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3923.

Нумар падпісаны ў друк 16.10.2002.

Замова № 7380

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а